E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 1 (42) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА СТУДЗЕНЬ 2005 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС* 63773 http://nchas.iatp.by

# Ці будзе ў нас свая АЭС?



# Закон аб мовах – 15 год дзеяння

26 студзеня ў сядзібе ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» прайшла прэс-канферэнцыя з нагоды 15-годдзя Закона аб мовах у Беларусі. У ёй бралі ўдзел сябры сакратарыяту ТБМ, вядомыя культурныя дзеячы – Васіль Шаранговіч, Вячаслаў Рагойша, акадэмік Аляксандр Падлужны, доктар біялагічных навук Язэп Стэпановіч, запрошаныя журналісты. Старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў агучыў прэс-рэліз Сакратарыяту ТБМ. У ім, у прыватнасці, адзначалася:

«...26 студзеня 1990 года на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета XI склікання, літаральна за месяц да абрання першага дэмакратычнага парламента, быў прыняты Закон аб мовах у БССР, які ўступіў у сілу з 1 верасня.

Праз 5 гадоў, па афіцыйных звестках Міністэрства адукацыі, на канец 1994–1995 навучальнага года з 219 сярэдніх школ сталіцы статус беларускамоўных атрымала 181 школа. Ва ўсіх школах, незалежна ад мовы навучання, гісторыя Беларусі выкладалася на беларускай мове. У Мінску з'явіліся нядзельныя школы па вывучэнні ўкраінскай і татарскай моў, былі адкрыты першы клас на польскай мове...

У 1995 г. першы клас па-беларуску ў г. Мінску скончыла 14.646 вучняў, што склала 58% ад агульнай колькасці першакласнікаў. Па краіне гэтая лічба дасягала 76%.

Чарговая сур'ёзная пагроза над роднай мовай навісла пасля рэферэндумаў, што адбыліся ў 1995 і 1996 гадах, у выніку якіх руская мова была нададзены статус дзяржаўнай... Міністэрства адукацыі прымае рашэнне ўвесці з 1 верасня 1995 года ва ўсіх першых класах беларускіх школ і беларускамоўных класах рускіх школ абавязковае вывучэнне рускае мовы. У гэтым жа годзе было пераведзена на рускую мову навучання 108 школ, у тым ліку 91 сельская. А ў 2002 годзе было ліквідавана аж 152 школы з беларускай мовай навучання.

13 ліпеня 1998 года быў прыняты Закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». У гэтым Законе, у артыкулах, дзе гаворка ідзе пра выкарыстанне мовы, уведзена такое нязначнае, на першы погляд, дапаўненне – злучнік «або». Напрыклад, артыкул № 26 пачынаецца так: «У Рэспубліцы Беларусь мовамі ў сферы культуры з'яўляюцца беларуская і (або) руская».

У 1999 годзе практычна ўся дакументацыя ў краіне была пераведзена на расійскую мову. Праз 10 гадоў пасля прыняцця Закона аб мовах, гэта значыць на канец 1999-2000 навучальнага года, у школах краіны навучалася на роднай мове 463.371 вучняў, што складае 30 % ад усёй колькасці школьнікаў; на рускай – адпаведна 1.081.798 і 70%. Калі ў 1994-1995 навучальным годзе першы клас на роднай мове скончыла 58% вучняў, то ў 1999-2000 навучальным годзе ўсяго 4,3% ад агульнай колькасці першакласнікаў.

На пачатак 2004-2005 навучальнага года ў краіне 4.104 школы, у якіх вучыцца 1.264.530 вучняў. З іх адукацыю на беларускай мове атрымлівае 301.250 чалавек, што складае 23,8% ад агульнай колькасці навучэнцаў. Сёлета па краіне толькі 22,7% першакласнікаў вучыцца ў беларускамоўных класах, у Мінску – 3%. У сталіцы 236 школ, з іх – 4 беларускія, 50 – з дзвюма мовамі навучання».

Васіль Шаранговіч адзначыў, што тормазам шырокаму дзеянню Закона быў пункт пра абавязковасць ведання мовы пры займанні дзяржаўных пасадаў. Шаранговіч прыгадаў, што ў гады, калі ён быў рэктарам Акадэміі мастацтваў, больш як 80% абітурыентаў здавалі экзамены па-беларуску. Натуральна, калі выкладчыкі выкладалі па-беларуску, то і студэнты імкнуліся гаварыць па-беларуску. На думку Вячаслава Рагойшы, падарваў дзеянне закону не столькі рэферэндум, колькі Закон са змяненнямі, які дазволіў выключнае карыстанне рускай мовай. Цяпер нават па беларускім тэлебачанні перадачы пра Купалу падаюцца па-руску. Зменшаны курсы па беларускай гісторыі. Бібліятэкі не замаўляюць кніг на беларускай мове ў дзяржвыдавецтвах. Цяпер начальства ўсур'ёз гаворыць пра незалежнасць, але ж яна трымаецца на мове, на культуры. Аляксандр Падлужны ўзгадаў, што пытанне мовы моцна залежыць ад пазіцыі элітаў, а пакуль яны паказваюць адмоўны прыклад.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі адзначылі, што Закон аб мовах быў прыняты, калі Беларусь адзначала 500-годдзе з дня народзінаў Францішка Скарыны. Сёлета спаўняецца 515 гадоў Вялікаму Беларусу, і найважнейшай задачай ТБМ у гэты юбілейны год ёсць вяртанне беларускай мове рэальнага статуса дзяржаўнай.

# Паклікание

*Вядомы навуковец Язэп Стэпановіч – загадчык аддзела геабатанікі і мапаграфіі расліннасці Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В.Ф.Купрэвіча НАН Беларусі, доктар біялагічных навук, прафэсар кафедры агульнай біялогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка – узнагароджаны медалём Барыса Кіта «За асягненьні ў асьветніцтве і навуцы». З гэтай нагоды галоўны рэдактар «Новага Часу» Алена Анісім узяла ў спадара Стэпановіча інтэрв'ю.*



**А.А.: Адразу хачу павіншаваць цябе з грамадскім прызнаннем. Ты, так бы мовіць, засвяціўся ў біялагічнай навуцы (твая доктарская праца пазначана ў Міжнародным каталазе сярод важнейшых даследаванняў 1999 г. у галіне біялогіі і экалогіі). У філалогіі таксама след зрабіў, у прыватнасці, у раздзеле тэрміналогіі. Памятаю, твае прапановы па лацінцы, апублікаваныя ў артыкуле «Крок да ўрапейскага супольніцтва» («Навіны Беларускай акадэміі»), выклікалі фурор у грамадскім асяродку і неадназначную рэакцыю афіцыйнай навукі.**

**Адным словам, уражвае твая шматгранная і плённая дзейнасць і непахісная беларускасць. Дзе спадар Язэп нарадзіўся? У якой сям'і выхоўваўся?**

**Я.С.:** Нарадзіўся ў вёсцы Лыцавічы Вялейскага раёну Менскай вобласці. Бацькі - простыя сяляне. А ўплывы? Неяк вядомы чэмпіён свету Юрык Варданян на падобнае пытанне: «Адкуль вытокі тваіх поспехаў?», – адказаў так: «Бацькавы гены, маміна малако і дзядзькава выхаванне». Шчыра скажу, бацька Міхась (у блізкім акружэнні так менавіта клікалі) нават лічыў сябе «палякам», скончыў польскую гімназію і гэтым ганарыўся. Хіба мама Алена (Лёня) сваімі калыханкамі ды цікавымі беларускімі казкамі заклала цаглінку беларускасці. А вось далей па бацькавай лініі... дзед Язэп быў адукаваным рольнікам, арандаваў зямлю пад Лыцавічамі, меў ладную хатнюю бібліятэку, дзе разам з братам Януком – дэпутатам Віленскай дзярждумы захоўваў і некаторыя кнігі, якія друкаваў нейкі мой прадзед Пётра ў Віленскай друкарні імя Скарыны. Вось можа адсюль праявілася маё кніжніцтва ды беларускасць?

А наваколле ў часы майго «савецкага» дзяцінства наўрат ці спрыяла фармаванню нацыянальнай самасвядомасці. Я навогул доўга не мог уцяміць, чаму мы жывём у Беларускай рэспубліцы, а гавораць усе, стараюцца ва ўсякім выпадку гаварыць, па-расейску. Тая ж бабуля звяртаецца да старшыні калгаса: «Здраствуйце таварышч прадсядацель!» І чаму мае дваровыя сябры, скончыўшы школу ды вяртаючыся першы раз з Вялейскай вучэльні («хопзайні» мы называлі) за бацькоўскім кумпяком, з імі ж і паплечнікамі ўжо гавораць «па-рюскі»? Я не ўтрую, гэта факт. Парадаксальна, але і ў суверэннай Беларусі «комплекс беларускай непаўнавартасці» не ліквідаваны...

Я мяркую, што на фармаванне маёй нацыянальнай пазіцыі істотна паўплывалі кантакты з летувісамі. Мы жылі блізка ля мяжы з Літоўскай ССР, і бацька па звычцы (яшчэ да вайны трымаў сваю краму і дастаўляў з Вільні тавары т харчы) часта са мной ці іншымі сынамі (браў нас у памочнікі – каня паглядзець ці мала што) ездзіў на бліжэйшы Свянцянскі (г. Швенчоніс) кірмаш. І я бачыў паводзіны, чуў гутарку летувісаў. Спачатку я дражніў іх: «Лабасы – масалбасы!», за што мяне бацька за вуха круціў. З цягам часу стаў усведамляць і задумваць, а чаму мы – беларусы, жывучы таксама ў Саюзе, але па-свойму саромеемся гаварыць. У іх і пісьмовая графіка інакшая. Я моцна запаважаў суседзяў і стаў прыдумваць прывабнасці для нашай мовы.

**А.А.: Дык вось адкуль твая лаціна!**

**Я.С.:** Так стаў распрацоўваць беларускую лацінку – існаму алфавіту падабраў лацінскія эквіваленты, зусім нават не падазраючы пра шматвяковае існаванне нацыянальнага лацінаграфічнага пісьменства. Вось як надзейна была схавана ад беларусаў іх спадчына! І гэта, як я пазней убачыў, усяго драбніца ад таго, што нашы продкі мелі. Сваю лаціну я спрабаваў афіцыйна практыкаваць у школьным насценным друку. Але мае «свавольствы» хутка спыніла пільная піянерважатая. Замкнуўся ў сабе і ціха пісаў са старэйшых класаў дзённікі.

**А.А.: Цікава, такая блізкая ўвага складася да мовы, але шлях філолага ты не абраў. Як стаў біёлагам?**

**Я.С.:** Жыццё як такое – дужа загадкавая з'ява. Яшчэ са знаёмства з батанікай у 5 класе і затым заалогіяй мяне моцна ўразіла гіганцкая разнастайнасць жывых істот. І чаму розныя віды не скрыжоўваюцца? Я тады спрабаваў рабіць прышчэпы не толькі пладовых між сабой, але і прышчэпліваць яблыню да рабіны, ігрушу да асіны і г. д. і ў адваротным парадку. Штосьці атрымлівалася. Бачачы маё захапленне селекцыяй, мама выдзеліла мне кавалачак агарода. Насадзіў я раслін на сваім пятачку з усёй акругі і эксперыментаваў... Мне вяскоўцы хутка далі мянушку «аграном». Так хобі паступова перарасло ў прафесійнасць. Пасля школы паступіў я на прыродазнаўчы факультэт Менскага педагагічнага інстытута. Па сканчэнні працаваў крыху дырэктарам Вялейскага дома піянераў і школьнікаў, пакуль не паклікалі фанфары. Аддаўшы сумленна доўг радзіме (1,5 года ў танкавых войсках), па аб'яве ў газеце пайшоў паступаць у аспірантуру на батаніку. І не шкадую за выбар.

**А.А.: Што ты на сваім месцы, то пацверджаннем таму сённяшняе прызнанне калег ды ўзнагарода. А якое кола тваіх навуковых інтарэсаў?**

**Я.С.:** На геабатаніцы я не замыкаюся. Хоць гэта вельмі комплексная навука. Я займаюся як фітацэналогіяй, так і экалогіяй, глебазнаўствам, мапаграфіяй расліннасці. Мае даследаванні па кандыдацкай і доктарскай дысертацыях звязаны таксама з ландшафтазнаўствам і біягеахіміяй, з лугазнаўствам і аграхіміяй глебаў і біяхіміяй раслін. Адзін з важнейшых праектаў, які зараз рэалізоўваю разам з супрацоўнікамі лабараторыі, – разгортванне нацыянальнай сістэмы і адпрацоўка тэхналогіі вядзення лугавога фітаманіторынгу.

**А.А.: Пакольі ходзяць легенды, раскажы крыху, як абараняў доктарскую дысертацыю.**

**Я.С.:** Як вядома, падрыхтаваў яе ў 1999 г. на беларускай мове, прайшоў паспяхова ўсе этапы перадабароны, апрабаваў нават за мяжой – у Грайфсвальдскім універсітэце (Нямеччына) і Акадэміі навук Чэшскай Рэспублікі. Атрымаў тры дзесяткі водгукаў на аўтарэферат дысертацыі, напісаны таксама па-беларуску. Больш за палову водгукаў паступілі з іншых краін, што значна перавышала звычайную колькасць водгукаў на нашай дысцыпліне. Водгукі ў большыні сваёй разгорнутыя, дэталёвыя. Гэта ўсё радыкальна разыходзілася з прагнозам. Ды мне ў розных формах папярэджвалі, што могуць узнікнуць праблемы з беларускамоўнай дысертацыяй. Навуковы кансультант настойліва прапаноўваў падрыхтаваць па-расейску хоць бы аўтарэферат. Урэшце быў знойдзены важкі аргумент: патрэбна манаграфія. Хоць у тадышніх патрабаваннях ВАКа яна была пажаданай, але не абавязковай. За некалькі дзён да назначанай абароны я, узважыўшы ўсё, пагадзіўся прыпыніць абарону і надрукаваць манаграфію. Праўда, гэту адтэрміноўку я аплаціў двума наступнымі гадамі чарговай валакіты і друкаваннем з вялікімі арганізацыйнымі цяжкасцямі і за свой кошт навуковай кніжкі. Нарэшце (2001 г.) абарона доктарскай паспяхова адбылася і рашэнне Рады пацверджана БелВАКам.

З кандыдацкай у 1988 г. нешта падобнае было, спынялі абарону. Але там па навуковай частцы былі прынцыповыя разыходжанні з апанентамі ды маладому дысертанту не дазвалялася «ламаць» навуку. Удалося абараніцца і ў выніку з аднадушным галасаваннем Рады па абароне «за» прысуджэнне мне навуковай ступені.

**А.А.: Якімі дасягненнямі найбольш ганарышся? Што важнейшае ў тваім жыцці?**

**Я.С.:** Ганаруся прызнаннем сваіх сяброў і калег. Гэта, разумееш, сур'ёзнейшая рэч. Гэта натхняе мяне на працу, мацуе пазіцыю. А найважнейшым у сваім жыцці застаецца сям'я. Больш за сябе ганаруся дзецьмі – сынам Алесем, студэнтам І курса хімфака БДзУ, і дочай Лідачкай, вучаніцай 8 класа. Дзеці працавітыя, самастойныя і ўважлівыя – проста класныя. А жонка Алена – мой ідэал жанчыны; у ёй гарманічна спалучаюцца найлепшыя якасці – прыгажосць і сямейная адданасць.

**А.А.: Ты вядомы грамадскі дзеяч Таварыства беларускай мовы, шмат займаешся іншымі грамадскімі справамі. Якім чынам ты патрапіў у грамадскі рух?**

**Я.С.:** Я з яго ніколі не выходзіў. І ў савецкія часы я быў «вечным» старастам (класа, групы), камандзірам і камісарам студэнцкіх будаўнічых атрадаў, старшыней танкавай роты, старшынём прафсаюзнага камітэту Інстытута эксперыментальнай батанікі НАН Беларусі. А з 1988 г., толькі пачуўшы пра беларускі адраджэнцкі рух, я тут жа арганізаваў суполку Беларускага Народнага Фронту і ТБМ пры інстытуце і актыўна падключыўся да ўсіх спраў на ніве Адраджэння.

Акрамя таго, з 1991 г. я з'яўляюся старшынём Акадэмічнай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, старшынём Тэрміналагічнай камісіі ТБМ і секцыі біялагічнай і сельскагаспадарчай тэрміналогіі Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, а з 2003 г. –сябрам экспертнай групы па праверцы падручнікаў пры Мінадукацыі краіны. Старшыня Клуба грэка-каталіцкай інтэлігенцыі імя Кірылы Тураўскага.

**А.А.: Твая запаветная мара, якую б яшчэ хацелася ажыццявіць?**

**Я.С.:** Іх у мяне дужа шмат. І шэраг з іх, дзякуй Богу, худа-бедна, ажыццявіў. Выходзячы за межы сям'і і кар'еры, па вялікім рахунку, імкнуся дасягнуць найгалоўнейшага - сапраўднай незалежнасці Беларусі. Ведаю адзіны, правераны нашай гісторыяй шлях да здзяйснення не толькі маёй запаветнай мары, – праз адукацыю. Важнейшым крокам да нацыянальнай адукацыі павінны стаць Беларускі нацыянальны універсітэт. Будзе выхоўвацца нацыянальна сведамая моладзь – будзе будучыня ў Беларускай дзяржавы.

# Сацыял-дэмакраты нарэшце саспелі

***Беларускія сацыял-дэмакратычныя партыі збіраюцца аб'яднацца. Можна смела лічыць гэта сенсацыяй нашага палітычнага жыцця***

**Партыяў сацыял-дэмакратычнага накірунку ў Беларусі некалькі. Першай з іх была адноўленая Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (ачольваў Міхась Ткачоў). Потым узнікла «Партыя народнай згоды», за ёй услед як плён спробы аб'яднацца нарадзілася БСДП (Народная Грамада). Затым заявілі пра сябе Партыя Працы і жаночая партыя «Надзея». Адрозніць іх просты чалавек мог толькі па асобах лідэраў. Істотнай розніцы ў праграмах не магло быць па самой ідэі. Таму колькасны паказчык сведчыў болей пра тое, што паразуменне не могуць знайсці між сабой лідэры. Зараз беларускія сацыял-дэмакраты лічаць аб'яднанне адзіным шляхам нармальнай працы ў грамадстве.**

**Нарэшце вырашылі аб'яднацца беларускія маладыя сацыял-дэмакраты – «Маладая грамада» і «Маладыя сацыял-дэмакраты». Моладзь распачала аб'яднаўчы працэс, каб зрабіць падказку сваім старэйшым таварышам, якіх жорстка скрытыкавала.**

**Аб'яднаўчы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады прызначаны на 19 сакавіка. Гэта ўжо надта блізка, і ў партыях безумоўна ідуць асэнсаванні маючых быць плюсаў і мінусаў аб'яднання. Каб крыху даведацца пра гэтыя настроі і падзяліцца імі з чытачамі, рэдакцыя звярнулася да вядомых асобаў беларускай сацыял-дэмакратыі.**







**Алег Трусаў, старшыня Менскай гарадской арганізацыі БСДГ.**

**Рэд.: Спадар Алег, як вы можаце патлумачыць такую вялікую колькасць арганізацыяў сацыял-дэмакратычнай плыні: гэта залежала ад асабістых якасцяў лідэраў ці ўсё ж былі нейкія важкія падставы для такога масавага ўзнікнення?**

**Трусаў:** Канешне, асабістыя якасці людзей таксама паўплывалі, але былі больш моцныя сілы, ёсць тэндэнцыі ў палітычным жыцці, якія цяжка абмінуць. Так было і ў іншых краінах Еўропы. Спачатку ствараюцца адна-дзве партыі, потым яны множацца, і нарэшце яднаюцца ў адну. У нас у постсавецкі перыяд адсутнічала традыцыя шматпартыйнасці, не было базы для нармальнага існавання партый на выбарах, дэмакратычных механізмаў. Большасці насельніцтва былі блізкія ідэі сацыяльнай справядлівасці, але яна разумелася ў звычным духу тагачаснага камуністычнага ўяўлення. У Польшчы ці Літве працэс праходзіў хутчэй, бо ў іх быў іншы вопыт. Паказальна, што там сацыял-дэмакраты сталі моцнай сілай. Нам быў патрэбны час для асэнсаванняў, таксама як і самому грамадству патрэбны быў час, каб пазбавіцца ад ранейшых ілюзіяў. Таму, на маю думку, працэс цалкам нармальны і зараз становіцца на «еўрапейскія рэйкі». Слабая партыі далучацца да мацнейшых і створыцца адна палітычна ўплывовая партыя, здольная заняць свой сегмент у парламенце.

**Рэд.: У нашай краіне яшчэ шмат людзей жыве з памяццю аб камуністычных ідэалах грамадства. Якую частку сваіх прыхільнікаў, будучых выбаршчыкаў, ахопліваюць ці могуць ахапіць сацыял-дэмакраты?**

**Трусаў:** Сацыял-дэмакратычныя праграмы найперш падтрымоўваюць адукаваныя слаі грамадства, вялікі пласт людзей з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Але праграмы могуць быць прывабнымі і цікавымі для шырокага народу.

**Рэд.: Напрыклад, у якіх пунктах?**

**Трусаў:** Напрыклад, у пункце пра зямлю. Сацыял-дэмакраты лічаць, што частка зямлі павінна заставацца за дзяржавай як народная маёмасць. Зямельныя надзелы могуць прыватызавацца і станавіцца прыватнай маёмасцю, што дасць чалавеку пэўныя гарантыі. Бо зараз у нас ніхто нічым не валодае апроч кватэры ці машыны. Лібералы мяркуюць, што трэба ўсю зямлю пусціць з малатка. Але гэта пагражае нарадзіць з цягам часу новых латыфундыстаў. Сацыял-дэмакраты трымаюцца неабходнасці моцных сацыяльных гарантыяў для грамадства.

**Рэд.: У сувязі з аб'яднальным працэсам, ці бачыце вы вядомую постаць, здольную атрымаць падтрымку ў шырокіх колах грамадства?**

**Трусаў:** Па-майму меркаванню, такой асобай можа быць Мечыслаў Грыб – чалавек з вялікім дзяржаўным вопытам, памяркоўны, не аўтарытарнага тыпу, паважлівы да сацыял-дэмакратычнай ідэалогіі.

**Аляксей КАРОЛЬ, намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.**

**Рэд.: Якія перашкоды можа напаткаць аб'яднаўчы працэс у сучасны момант?**

**Кароль:** Я б назваў адну аб'ектыўную прычыну таго, што аб'яднанне не адбылося дагэтуль. Гэта традыцыя аўтарытарнага грамадства ў нашай краіне. І, на жаль, гэтая «бацыла», гэтая хвароба ўплывае на дэмакратычны рух і на яго станаўленне. Слабая нацыянальная эліта ўспрымае гэтую тэндэнцыю да аўтарытарызму. Яна праяўляецца ў партыйным будаванні. У нас былі партыі аўтарытарна-таталітарнага тыпу. Лідэр звыкаецца са сваёй пазіцыяй, яму не хочацца яе страчваць. Як ён можа кіраваць дэмакратычнымі метадамі? Таму напачатку трэба стварыць дэмакратыю ўнутры партыі, каб пасля дамагацца дэмакратыі ў грамадстве.

На жаль, гэты рэцыдыў аўтарытарызму заўважны і ў дэмакратычным руху. Тым больш, што пасля 1994 году ў краіне пачаў умацоўвацца аўтарытарны рэжым. Таму самае галоўнае зараз ствараць партыі, якія працуюць на дэмакратычных пачатках, і імкнуцца гэтыя ж прынцыпы ўсталяваць у грамадстве. Аўтарытарызм могуць перамагчы толькі дэмакратычна пабудаваныя палітычныя сілы.

**Рэд.: Што вы канкрэтна маеце на ўвазе?**

**Кароль:** Па-першае, сённяшні аб'яднаўчы працэс падтрыманы знізу, нашымі першаснымі арганізацыямі. Гэта і ёсць гарантыя таго, што аб'яднанне адбудзецца. Нашыя рэгіянальныя арганізацыі даўно працуюць сумесна. Па-другое, пасля 10 год панавання аўтарытарнага рэжыму кіруючыя органы і лідэры партыяў пачынаюць усведамляць, што няма іншага шляху для перадолення праблемаў у грамадстве, акрамя аб'яднання. Лепш перамагчы ўсім разам, а потым, як і ва ўсіх цывілізаваных краінах, дзяліцца і змагацца за дэпутацкія месцы ў парламенце.

**Рэд.: Чаму пытанне аб'яднання сацыял-дэмакратычных партыяў абвострылася менавіта зараз?**

**Кароль:** На гэта ёсць дзве прычыны. Першае – працэс аб'яднання пачаты не сёння, мы працуем над гэтым з 2001 году. Другое – нас чакаюць лёсавызначальныя падзеі. Прэзідэнцкія выбары дадуць магчымасць актывізаваць палітычныя сілы, з большай моцай уплываць на грамадскую думку. Зараз дзеля гэтага створаная пэўная база, пераадолены цяжкасці. Аб'яднанне левацэнтрысцкіх сілаў – гэта не самамэта. Гэта высілкі ў рэчышчы аб'яднання ўсіх дэмакратычных сілаў дзеля ўсталявання дэмакратычнага ладу ў Беларусі. На мой погляд, слабасць левых сілаў парушае агульны баланс у межах дэмакратычнага лагера. Палітычныя памкненні людзей у Беларусі зараз маюць такое «левае адценне». Я гэта ведаю з дзвюх крыніцаў. Першае – гэта выказваюць самі людзі. Па-другое – заявы ўсіх палітычных партыяў і лозунгі кандыдатаў падчас выбараў у Палату маюць сацыяльны змест.

**Рэд.: Кожная з партыяў мае сваё «маладзёвае крыло»? Ці падтрымаюць маладыя аб'яднаўчыя тэндэнцыі?**

**Кароль:** У кожнай з партыяў ёсць маладзёвыя арганізацыі. У БСДП (Народная Грамада) – «Маладыя сацыял-дэмакраты». У БСДГ – «Маладая грамада». Ёсць адрозненні. «МСД» працуюць па прынцыпе «братэрскай арганізацыі». «Маладая грамада» – гэта самастойная арганізацыя. Мая пазіцыя – не трэба бацькам занадта апекавацца дзецьмі, трэба даваць ім самастойнасць.

Яшчэ адзін прынцып – у палітыцы няма ўзросту. Мы дамаўляемся. Перамоўны працэс – гэта складанасці дэмакратыі, але гэта яе і перавага. Гэтыя дзве арганізацыі на месцах даўно працуюць разам. Акрамя таго, яны прынялі палітычнае рашэнне аб сваім аб'яднанні. На лета прызначаны аб'яднаўчы з'езд. Гэта ўжо перарасло ўзровень планаў і думак. Працэс саспеў.

**Уладзімір НІСЦЮК, першы намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).**

**Рэд.: Скажыце, спадар Нісцюк, што, на вашу думку, раз'ядноўвае сацыял-дэмакратычныя партыі ў Беларусі?**

**Нісцюк:** Пачатак 1990-х гг. у Беларусі быў часам лідэраў. Таму партыі ствараліся «пад лідэраў», пад іх бачанне сітуацыі, іх перакананні, пад іх асабістыя амбіцыі. Беларускі Народны Фронт, Грамадзянскую партыю і Сацыял-дэмакратычную партыю стварылі асобы. З аднаго боку, гэта было вельмі лёгка. Людзі з павагі ці захаплення асобай лідэра прыходзілі ў партыі. Зараз надышоў другі час. Час пераўтварэння ў партыі, якія маюць ідэйны стрыжань, якія не залежаць ад асобаў і могуць працаваць незалежна ад таго, хто імі кіруе. На першы план выходзіць ідэя. І гэта вельмі добра. Некаторыя асобы спрабавалі стрымліваць свой час, штучным чынам яго працягнуць. Гэта вельмі шкодзіла ідэі сацыял-дэмакратыі. Зараз выпраўляецца гістарычная памылка, якая была зробленая 10-12 гадоў таму. Надышоў час партыяў. Калі партыя пачне існаваць на ідэйнай падставе і не будзе залежаць ад таго, хто ёй кіруе, яна разгорнецца і знойдзе шмат новых паплечнікаў. Такі прыклад – з БСДП (НГ) шмат хто сышоў асабіста з-за М.Статкевіча. Шмат хто з-за гэтага не прыйшоў у партыю. Многім не падабаўся ягоны кіруннак на вулічную барацьбу. Зараз трэба ствараць палітычную структуру, сабраць усе сілы, адысці ад асобаў лідэраў.

**Рэд.: Якая ідэя павінна выйсці на першы план?**

**Нісцюк:** Сацыял-дэмакратычная. Гэтая ідэя зараз ахапіла шмат дзяржаваў і рэгіёнаў свету. Ідэя сацыяльнай абароны людзей наёмнай працы. Яе адсутнасць на палітычным полі замінала нам працаваць. Мы лічылі, што ўсе павінны змагацца супраць улады.

**Рэд.: Кіраўнік дзяржавы таксама кожны раз узгадвае сацыял-дэмакратычныя каштоўнасці ў сваіх прамовах...**

**Нісцюк:** Сапраўды, Аляксандр Рыгоравіч спрабуе паказаць сябе як сацыял-дэмакрат. Але ён не ёсць ім, бо ў падмурку сацыял-дэмакратычнай палітычнай плыні ляжыць не толькі вырашэнне сацыяльных праблемаў: пенсіі, заробкі і г.д. Сацыял-дэмакратыя – гэта таксама палітычныя свабоды, палітычная дэмакратыя. Мы прапануем людзям сацыял-дэмакратыю як сістэму, як комплекс адказаў на пытанні, якія іх хвалююць. У эканоміцы з некаторымі думкамі Аляксандра Лукашэнкі можна пагадзіцца.

**Рэд.: Хто будзе кіраваць новым палітычным утварэннем?**

**Нісцюк:** Трэба некаму пайсці на кампраміс. Кампраміс у палітыцы завецца «палітычная дамова». І ў БСДП (НГ) і ў БСДГ ёсць людзі, якія здольныя па ўсіх сваіх якасцях і магчымасцях кіраваць будучай партыяй. Але калі будзе кіраваць некалькі чалавек, гэта ўжо не партыя, а нейкі палітычны клуб. Статут сённяшніх партыяў не прадугледжвае сустаршынства. А канкрэтна ўсё вырашыцца на аб'яднаўчым з'ездзе. Наш лозунг – «Справядлівасць. Салідарнасць. Свабода». Наша пазіцыя - «З людзмі, для людзей, ад людзей». Ужо зараз мы можам арганізаваць сацыяльныя акцыі ў падтрымку шматдзетных сем'яў, інвалідаў, ветэранаў. І мы абавязкова будзем працаваць там, дзе вырашаюцца дзяржаўныя пытанні. Я веру ў тое, што прыйдзе час, калі ў беларускім парламенце будзе нармальная фракцыя сацыял-дэмакратаў, якая будзе працаваць і ўплываць на сітуацыю ў краіне.

**Беларуская атамная станцыя, калі яна сапраўды будзе пабудавана, дазволіць краіне кардынальна зменшыць залежнасць ад расійскага газу, які складае каля 90% аб'ёму ўсяго патрэбнага гаспадарцы паліва**



**Па разліках беларускіх экспертаў, увядзенне ў энергасістэму краіны АЭС дазволіць зменшыць выдаткі на паліва на 200–400 млн. даляраў на год, а сабекошт вытворчасці электраэнергіі будзе на 20% ніжэй, чым пры выкарыстанні газу**

# Ці будзе ў краіне свая атамная электрастанцыя?

На нядаўнім паседжанні Савета бяспекі, якое найбольш было прысвечана пытанням энергетычнай бяспекі нашай краіны, прэзідэнт Лукашэнка выказаў думку, што будаўніцтва ў Беларусі атамнай станцыі – пытанне часу. Без развіцця атамнай энергетыкі эканоміка краіны не здолее нармальна развіцца. І гэта сапраўды так. Каля 90 адсоткаў энергарэсурсаў наша краіна вымушана экспартаваць, прычым наш адзіны экспарцёр – Расія. Энергарэсурсы экспартуюць многія краіны, але ў залежнасць ад аднаго экспарцёра стараюцца не трапляць. Нармальным лічыцца наяўнасць некалькіх пастаўшчыкоў, прычым частка кожнага ў пастаўках энергарэсурсаў павінна быць не болей за 30 працэнтаў. Інакш эканамічныя стасункі лёгка скарыстаць для палітычнага ціску. Аднак геапалітычнае становішча нашай краіны робіць нявыгаднымі пакупкі, прыкладам, газу ў любога іншага пастаўшчыка апроч Расіі. Туркменскі ці нарвежскі газ, калі дамовіцца аб яго пастаўцы, будзе значна даражэйшы за расійскі.

Штогод на закупку энергарэсурсаў Беларусь выдаткоўвае каля 2 мільярдаў даляраў. Па разліках спецыялістаў, гэта прыкладна адпавядае кошту будаўніцтва ўласнай атамнай электрастанцыі (2,5 мільярды даляраў), якая дазволіць Беларусі штогод эканоміць на закупках паліва 300–400 мільёнаў даляраў. Эканамічная мэтазгоднасць відавочная.

Таму ёсць пра што сур'ёзна падумаць, каб вырашыць даўно набалелую праблему. Пасля распаду СССР Беларусь сярод былых рэспублік Саюзу апынулася ў самым складаным становішчы па паказчыках энергазабяспечанасці. Маючы развітую моцную прамысловасць, краіна можа забяспечыць свае патрэбы з уласных паліўна-энергетычных рэсурсаў толькі на 10 працэнтаў. На мінулым тыдні на цырымоніі ўручэння доктарскіх дыпломаў навукоўцам Аляксандр Лукашэнка заявіў пра неабходнасць павышэння эфектыўнасці выкарыстання прыродных рэсурсаў: «Праблема заключаецца ў тым, што большасць важных відаў сыравіны мала падыходзіць для перапрацоўкі традыцыйнымі спосабамі. Задача навукі – прапанаваць новыя, эканамічна выгадныя тэхналогіі». Аднак наша беднасць на такую сыравіну нават пры новых тэхналогіях не дасць таго выніку, які можа стратэгічна паўплываць на сітуацыю. Патрэбы ў энергіі штогод узрастаюць, а запасы сыравіны не бясконцыя. Таму яшчэ ў 1992 годзе была прынята ўрадам Праграма развіцця энергетыкі і энергазберажэння ў Беларусі да 2010 года. У ёй прадугледжвалася і развіццё атамнай энергетыкі, і ў 1993 годзе была распрацавана Канцэпцыя праекта праграмы развіцця ядзернай энергетыкі ў Беларусі. Называлася нават месца, дзе можна паставіць АЭС – Краснапалянская пляцоўка ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці (усяго было вывучана 50 месцаў). Разлічвалася і аптымальная магутнасць – два энергаблокі па 640 мегават кожны, а таксама ўсе астатнія неабходныя параметры будоўлі.

Уласнымі сіламі пабудаваць атамную электрастанцыю Беларусь не здолее. Мы не маем неабходных тэхналогіяў, ні вопыту такой працы, ні патрэбных спецыялістаў у гэтай галіне ядзернай энергетыкі. Мы не маем і некалькіх мільярдаў даляраў на будаўніцтва, і таму паўстае не менш важнае і дэлікатнае пытанне аб інвестыцыях і інвестарах.

На міжнародным атамным рынку такіх паслугаў актыўна дзейнічаюць нямецкая фірма «Сіменс», французы, японскія Mitsubishi, Hitachi, канадцы, амерыканцы (Westinghouse Electric, General Electric Co.). З імі вядуць канкурэнтную барацьбу за заказчыкаў расійскія кампаніі. Генеральным пастаўшчыком і будаўніком АЭС за мяжу з`яўляецца расійская кампанія «Атамсбудэкспарт», кантрольны пакет якога набыў Газпрамбанк. Адзін з галоўных пастаўшчыкоў абсталявання для атамнай энергетыкі – «Аб`яднаныя машынабудаўнічыя заводы», якія належаць вядомаму Кахі Бендукідзе. Сёння гэтая кампанія выpабляе абсталяванне для 5 з 11 блокаў АЭС, якія будуюцца ў Іране, Кітаі, Індыі. Варта зазначыць, што тая краіна, якая будзе будаваць АЭС, возьме на сябе і абавязкі па забеспячэнні сыравінай. Калі для будоўлі будзе запрошана расійская фірма, то атрымаецца, што краіна змяніла быка на індыка – зноў застаецца адзін той жа самы экспарцёр з ранейшымі магчымасцямі перакрыць «кран» на вядомы нам «газавы» ўзор мінулага года.

Пра намер уладаў прыступіць да будаўніцтва АЭС у бліжэйшыя гады, а можа нават і ў бягучым годзе, заявіў былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, дзеяч апазіцыі Уладзімір Парфяновіч. У сваёй заяве, якая шырока каментуецца СМІ, ён адзначае: «Лукашэнка, добра разумеючы, што раней ці пазней Масква выставіць заходняму псеўдасаюзніку рахунак па сусветных коштах за энергетыку, усімі сіламі адцягвае непазбежнае банкруцтва вядомай «беларускай эканамічнай мадэлі». Цяпер усе яго надзеі сфакусаваліся на атамнай энергетыцы, у ёй ён бачыць уласнае выратаванне ад непазбежнага краху створанага ім палітычнага ладу». «У нас не павінна быць ніякіх ілюзіяў, – гаворыцца далей у заяве Парфеяновіча. – Атамная энергія ў руках Лукашэнкі – гэта новая Паўночная Карэя ў Еўропе, гэта шантаж суседзяў і ўсяго свету на прыклад Пхеньяна, гэта пераўтварэнне беларусаў у ядзерных закладнікаў палітыкі беларускага прэзідэнта».

Па словах былога дэпутата, ён са сваімі прыхільнікамі ўжо прыступіў да арганізацыі Беларускага антыядзернага фронту – грамадскай ініцыятывы, якая ставіць мэтай паказаць насельніцтву Беларусі сапраўдныя, на яе думку, задачы, якія мае намер вырашаць улада.

Цяжка паверыць, што грамадская ініцыятыва з такой назвай і такімі мэтамі знойдзе народную падтрымку. Беларусь з усіх бакоў абкружана ядзернымі станцыямі, і ад адсутнасці ўласнай АЭС бяспека ніяк не ўзмацняецца. Адно толькі ўзмацняецца – энергетычная залежнасць. Будаўніцтва АЭС разлічана на 8–10 гадоў. Тэрмін немалы, і таму доўгатэрміновыя палітычныя прагнозы – справа неяўдзячная. Ад забяспечанасці энергарэсурсамі залежаць вытворчасць, рабочыя месцы, здольнасць краіны выходзіць на сусветны рынак тавараў і паслуг, дабрабыт мільёнаў людзей.

Таму будаўніцтва АЭС – даўно наспелая неабходнасць. Іншая справа, што вопыт Чарнобыльскай катастрофы прымушае да адказнага стаўлення ў экспертызе праекту, шырокай галоснасці, публічнага абмеркавання ўсіх станоўчых і негатыўных наступстваў пры рэалізацыі такога маштабнага праекту.

**Пётр КЛІМКОВІЧ**

Лявон САВЁНАК

# Беларусізацыя пад №...

**У газеце «Савецкая Беларусь» у 1920-я гады працаваў журналістам Лявон Савёнак, чалавек рэдкага літаратурнага таленту – сатырычнага. Савёнак (1897–1974) нарадзіўся ў вёсцы Вялец на Глыбоччыне, скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю (дарэчы, разам з Міхасём Чаротам). У 1922 годзе на запрашэнне Ус. Ігнатоўскага прыехаў у Мінск, быў карэспандэнтам газеты. Праз сем гадоў, калі пачаліся рэпрэсіі супраць «беларускіх культурнікаў», быў звольнены і мусіў зарабляць на жыццё сям'і працай на будоўлі. У 1929 годзе выйшла кніга яго фельетонаў «Чароўная іголка», болей у савецкі час яму не ўдалося надрукаваць ні радка. У 1934 годзе Савёнка арыштавалі па гэтак званай справе Беларускага нацыянальнага цэнтру (у ліку 9700 чалавек), ён патрапіў у турму, а потым на пяцігадовую ссылку. У гады вайны працаваў у «Менскай газеце», потым трапіў у Амерыку, заявіўшы сябе аўтарытэтным культурным і грамадскім дзеячам беларускай эміграцыі. У 1998 годзе коштам сям'і Савёнкаў – Кіпеляў выйшла ў Нью-Ёрку кніга літаратурнай спадчыны Лявона Савёнка. Можна толькі шкадаваць, што чалавек з такім вялікім дарам аказаўся выціснуты з нашай літаратуры. Фельетоны Савёнка, з якімі мы знаёмім у гэтым нумары, былі створаны да 1929 года; тагачасны беларускі чытач ведаў іх па кнізе «Чароўная іголка» (на жаль вялікі тыраж не быў вынішчаны НКУС). Мінула 75 гадоў, а уражанне такое, што быццам яны напісаны аўтарам сёння ранкам.**



### Рэжым у беларусізацыі

Увогуле, беларусізацыя ідзе некатарым крокам. Але ў некаторых установах яна ідзе яўна не па НОТУ. Адзін з кіраўнікоў гэтых некаторых устаноў казаў мне на пытаньне беларусізацыі:

«Мова не волк, в лес не убежит; с ней и подождать можно».

Ну і «ждут». Некаторыя з гэтых некаторых устаноў прапускалі па тры тэрміны так званага «канчатковага пераходу».

«Ждут...».

А тут пішуць.

Грошы дарма трацяцца: курсы адчыняюць, а іх не наведваюць! Не гавораць на мове абслугоўваемага грамадзянства! Больш увагі! І наогул, пішуць: трэба падцягнуцца.

З тэй прычыны, што цяпер, можна сказаць, зарэжымілі кругом, ня лішняе будзе, па-нашаму, увесьці рэжым эканоміі і ў справах беларусізацыі. Навошта сродкі марна гінуць?

Калі згадзіцца з гэтым, дык тут у першую чаргу патрэбен плян. Плян – і больш нічога.

Падагульнюўшы працу па правядзеньні беларусізацыі за ранейшыя часы, я на грунце практыкі мінулага і апрацаваў прыблізна схэматычны плян найскарэйшага й найтаннейшага правядзеньня беларусізацыі. Гэты плян павінен быць на бліжэйшыя гады настольнай кнігай для кіраўнікоў гэтых некаторых устаноў, якія кульгаюць у беларусізацыі...

Па майму пляну ўмацаваннее беларусізацыі пачынаецца так. Бярэцца чысты ліст паперы, і на ім кіраўнік установы піша цыркуляр або загад, у якім паведамляе сваіх падначаленых аб беларусізацыі.

Цыркуляр можна пісаць так:

«Для скорейшего проведения белорусизации в N учреждении довожу до сведения и неуклонного исполнения всех служащих, что с сей минуты предлагается в обязательном порядке постепенно переходить в канцеляриях на белорусский язык с тем, чтобы к осени текущего года окончательно перейти на бел. язык».

Калі цыркуляр пішацца ўвосень, дык тады трэба пісаць «с весны будущего года», калі зімой, дык «с лета будущего года» і г. д. Канчаць цыркуляр можна так: «мелкая переписка, написанная на русском языке, ни мной, ни моим помощником подписываться не будет».

Але гэта як хто хоча.

*Увага:* У гэтым пункце кіраўнік установы можа спаткаць значныя перашкоды. Можа стацца, што машыністка не захоча беларусізавацца й справа правалііцца ў самым сваім зародку. У такіх выпадках, як верны сродак, раіцца індывідуальны падыход да машыністкі.

Далей. Напісаны такім манерам цыркуляр можна вывесціць на сьцяну ў калідоры ўстановы, а то можна адразу аддаць у папку, якая спэцыяльна адводзіцца пад справу «Беларусізацыя» за № такім-та.

Гэтымі двума мерапрыемствамі фактычна й закладваецца фундамэнт беларусізацыі. Цяпер застаецца толькі, як кажуць, «вглубь» і «вширь». Для гэтага падшукваецца які-небудзь чалавек, ведаючы беларускую мову, які й залічваецца ва ўстанову на пасаду беларуса. Гэты чалавек і будзе паглыбляць беларусізацыю, вядучы «мелкую переписку с тем, чтобы с осени окончательно перейти...» і гэтак далей.

*Увага:* Кіраўнікі устаноў і наогул асобы, якія стаяць на 17-разраднай тарыфнай драбіне вышэй 14-ай ступені, на курсы хадзіць не павінны ні ў якім разе. Гэта для аўтарытэтнасьці, бо несьвядомыя падначаленыя могуць кпіць: «Тоже начальники и тоже неграмотные».

Той, хто хоча праявіць найбольшы імпэт у справе беларусізацыі, можа пару вывесак зрабіць на беларускай мове. Вывескі трэба пісаць як мага больш няграматна, каб незразумела было. Гэта ізноў жа для аўтарытэтнасьці ўстановы. Раз незразумела, то няйначай – нешта важнае.

Цяпер застаецца, можна сказаць, дробязь: гэта – падзяліцца з шырокімі коламі сваёй радасьцю, сваімі дасягненьнямі. Тут ізноў трэба падшукаць чалавека, паінфармаваць яго аб сваіх дасягненьнях і асьцярожна намякнуць яму, што вось ня шкодзіла б і ў газэту прапусьціць аб гэтым.

Інфармацыю трэба прапусьціць пад якім-небудзь хлёсткім загалоўкам, накшталт такога: «Мы доўга цярпелі»... або «Перашагнулі даваенную норму!». Пасьля загалоўка трэба зрабіць кароткі агляд ходу працы па беларусізацыі ў сваёй установе й тады пісаць:

«Беларусізацыя ідзе ў нас шпаркім крокам і ня сёння, дык заўтра перашагне 100 проц. Дасягненьні аграмадныя. Сялянства на ўсе 100 проц. гаворыць на беларускай мове. Яшчэ напор і... хто наступны?».

Пасьля ўсяго гэтага кіраўнік установы спакойна ідзе піць каву й чакаць праверкі ведаў на беларускай мове. Калі праверачная камісія знойдзе чаму-небудзь што-небудзь ня так, дык тады плян пачынаецца нанава з самага пачатку.

Галоўнае – у роспач не ўпадаць, не аддавацца «грусти и печали». Бадзёрасьць патрэбна й выдзержка. Я ведаў аднаго дзядзьку, які ўсё лета ваду ў ступе тоўк, лёд бачыце, хацеў зрабіць. Праўда, ён, бядак, так і памёр, не дачакаўшыся лёду (а вада ўсё-ткі сама замерзла, як прыйшла зіма), але да канца дзён сваіх быў вытрыманым і бадзёрым.

Вось такімі і павінны быць кіраўнікі гэтых некаторых устаноў, кульгаючых у беларусізацыі.

Аптымізм і бадзёрасьць, тады мой плян будзе яўна карысным.

**P. S.** Па апошніх вестках, мой плян распрацоўваецца і, па чутках, будзе прыняты.

### Рассуждения о белоруссизации (З запісной кніжкі «спэца»)

«Я спэц невялічкі, усяго на 175 руб., але, з боскай дапамогай, другія й гэтага ня маюць. Вось чаму я ня скарджуся на свой лёс. Жыву сабе й жыву.

Я, можа, быў-бы й зусім задаволены, каб не адна буйная няпрыемнасьць.

Няпрыемнасьць гэта, інакш кажучы, штодзённая прыкрасьць, якая пільнуе кожны твой крок і атручвае кароткія хвіліны адпачынку, ёсьць так званая беларусізацыя, «т.е. изучение белорусского языка».

Я – абураны. Я – злы. Я гатоў крычаць. Але я толькі шапчу, шапчу й то ў сваёй кампаніі, на вуха «сваўму» шапчу: «китайский язык,.. белоруссизация... ги... ги... и зачем она?». Шапчу, а ўголас не магу сказаць. О, мерзасьць! 0, жалкая трусасьць...

...Сёньня ў нас аднаму зрабілі выгавар, а другога звольнілі за нежаданьне вучыць мову...

Вучыць... Што гэта за вучэньне?

Помню, я малы вучыўся. Ня ведаеш, бывала, лекцыі – табе вушы надзяруць або на калені на гарох паставяць, а то й зусім без абеда пакінуць. Во, гэта лінія, хоць і жорсткая крыху, але вучыліся. А цяпер што? Ні без абеду нікога не пакідаюць і пэнсію ўсім спраўна даюць. На мой погляд, гэта гвалт. Навошта таміць чалавека? Навошта мэнчыць яго вучобай пяць гадоў? Ежалі трэба вучыцца, то трэба гэту вучобу праводзіць з рэвалюцыйнай цьвёрдасьцю, без паблажак, тым пача ў адносінах да «великовозрастных».

...Безабразія. Зьдзек. Паход супроць спэцаў. Так, паход. Інакш я не магу назваць таго, аб чым расказаў мне калега, прыехаўшы з правінцыі. Вось што ён апавядаў.

«Быў у нас экзамен на беларускай мове (гэта ў Чавусах). Прыехаў прадстаўнік акруговай нацыянальнай камісіі. Паглядзеў, пакруціў носам, панюхаў і знайшоў, што ў нас «Русью пахнет»: установы прапускалі свае «канчатковыя тэрміны» і не беларусізаваліся.

Потым нас сабралі на экзамен. Першага, канешна, старшыню выклікалі.

– Ну, як Вы наконт мовы? – пытаюць.

А старшыня ў нас хлапец сьмелы, адчаяны.

– Нияк, –кажа, –нуль стаўце.

Праўда, нуля яму не паставілі, сорампа было, едзініцу ўпісалі.

За старшынёй пайшоў яго намесьнік. Той пачаў нешта пыкаць наконт таго, што часу няма, што перагружаны й г. д. Яму таксама едзініцу ўпісалі. Тое самае было з лясьнічым, страхагентам і зь іншымі адказнымі. Усё гэта, разумеецца, нармальна. Але вось слухай, што далей было. Слухай і абурайся. Пасьля праверкі адбылося пасяджэньне прэзыдыюму РВК. І што-ж ты думаеш? На прэзыдыюме пастанавілі: «страхагента зьняць з пасады за няведаньне белмовы, а лясьнічаму за гэта самае зрабілі выгавар».

– А старшыні што? – пытаюся я.

– А старшыні – нічога.

– Як так нічога? Чаму яго з пасады не зьнялі?

– Чудак, – кажа мой калега, – ён-жа начальнік, сам зьніме.

– Ну?

– Ды як-жа ён сам сябе зьніме?

– А другія вышэйшыя?

– А тыя таксама ня ведаюць.

– А яшчэ вышэйшыя?

– Таксама.

Я змоўк. Змоўк і мой правінцыяльны калега. Мы апусьцілі галовы й думалі: «чаму так пабудаваны сьвет, што начальству можна, а спэцу нельга, і чаму начальства змушае спэцаў рабіць тое, чаго само ня хоча»...

...Малайцы наркамземаўскія спэцы. Героі! Сёньня ў «Вэнгржэцкага» выпівалі. Колькі сьмеху было, калі пасьля другой чаркі перайшлі да абгаварэньня пытаньня дню: гэтай самай беларусізацыі. Сьмяяліся, аж жываты балелі. Адзін расказаў, як ён ужыў у нейкай адносіне адно беларускае слова й так лоўка, што нікто ня мог разабраць адносіны. Другі хваліўся, што ён разлажыў на лапаткі аднаго беларускага шавіністага. З аднаго лёзунгу ўзяў такое беларускае слова, што той ніяк ня мог растлумачыць.

– Вось вам, кажа, беларуская мова, самі не разумеюць.

А трэці, што быў у зялёнай шапцы са значком у ваколышку (відаць, лесавод), дык проста – Аляксандар Македонскі. Той сьмела, перад усёй кампаніяй заявіў: «А я так совсем отказался изучать эту мову».

Мы вушам сваім ня верылі. У лесавода й такая сьмеласьць. Мы з радасьцю прынялі гэту заяву й з энтузіязмам канстатавалі, што «не перавяліся яшчэ багатыры на сьвятой Русі»...

...Цыркулюющь чуткі, што летам канчаюцца ўсе тэрміны беларусізацыі. Гэта, канешне, усё адны пустыя гутаркі. Але чорт яго ведае – часам гавораць, гавораць і нагавораць. Пагэтаму я сёньня ўзяўся за «Савецкую Беларусь» і чытаў яе ў парадку беларусізацыі цэлую гадзіну. Думаў, што галава разбаліцца, аж нічога. Наадварот, нават настрой узьняўся. Справа ў тым, што я вычытаў прыемныя навіны аб выніках экзамену па беларусізацыі Менскіх акруговых аддзелаў. Красата, а ня вынікі. І ўсё нашы спэцы. Ніводзін ня хоча беларусізавацца. Усе працуюць на «общепонятном». Стойкія рабяты, люблю за гэта. А што наконт канчатковай беларусізацыі летам, дык зноў-жа абсурд. У Менскіх акруговых установах добра ведаюць беларускую мову толькі 4 проц. усіх работнікаў.

Гэта – за пяць гадоў беларусізацыі. Калі ў такой прагрэсіі будзе ісьці далей, дык усе 100 проц. будуць ведаць беларускую мову праз 125 гадоў. Во! А кажуць – летам канчаткова. Запужваюць, а нам ня страшна, патаму мы лічбамі апэрыруем...

...Сёньня гаварыў я з адным беларускім шавіністым. Стаіць бядак на рагу Ленінскай і Савецкай і плюецца.

– З выпадку чаго плююецся? – пытаюся па-беларуску.

– Чытайце, – кажа, – лёзунг.

Чытаю: «Больш актыўнасьці ў абгаварэньні працы свай час савету».

– Хэ, хэ, – кажу, – па-беларуску-ж...

– Па-беларуску... (Тут шавіністы моцна вылаяўся). За гэткае «па-беларуску» вешаць трэба.

Шавіністы патрос кулаком некуды ў паветра й пайшоў сыпаючы: «сьмяюцца над намі»...

А я стаяў і сьмяяўся... Весела й сьмешна, калі беларускі шавіністы злуецца...

### Таварыш Мытніца

Такога «таварыша» шукала слуцкая пошта. Атрымала яна аднойчы пакет. Пакет як пакет. Самы звычайны. А на ім адрас: «Слуцак, Мытніца».

Доўга сапелі над пакетам паштавікі.

– Што за трасца такая, Мытніца? Хто ведае Мытніцу?

Ведаючых на пошце не знайшлося.

– Куды-ж пасланць, урэшце, пакет?

Рашылі перадаць пакет паштальёну: ён «соприкасается с массами», далжон ведаць. «Соприкасающийся с массами» таксама доўгі час круціў пакет у руках, узіраўся на яго, як на новыя вароты, і нарэшце сьціміў:

– Мытніца? Няйначай нехта прыежджы, бо дасюль такога ня чуваць было ў Слуцку.

І пайшоў па гораду шукаць прыежджага тав. Мытніцу. Абегаў горад, апытаў усіх слуцкіх старажылаў пра таварыша Мытніцу, – няма такога, дый годзе. Як у ваду кануў чалавек.

– А мусіць быць, трасца на яго, – навошта-ж тады-б пісалі: «Слуцак, Мытніца»?

У першы дзень не знайшоў. На другі дзень ужо сёмы пот мяняў паштальён, шукаючы тав. Мытніцу, калі, на шчасьце, адзін добры чалавек параіў:

– Наежджы, кажаш? Дык пры, брат, па ўстановах. Наежджыя – яны больш па ўстановах.

Пайшоў і па ўстановах. У адну сунуўся – няма Мытніцы, у другую – і ня было ніколі такога. І толькі ў трэцяй дабіўся толку.

Працяг на стар. 6

# Беларусізацыя пад №...

– Мытніца? Гэта-ж тое самае, што таможня, – растлумачылі. – Нясі ў таможню...

Разінуў рот паштавік ад зьдзіўленьня: шукаў чалавека, а знайшоў установу. Сплюнуў і вылаяўся:

– Нясі, каб цябе зямля не насіла. Другі дзень ужо нясу й ніяк не данясу.

Хто вінаваты ў гэтым? Ня мытніца, разумеецца. Вінавата тут тое, што слуцкія паштавікі лічылі сябе заграгічнымі.

Калі адчынілі на пошце курсы беларусазнаўства, то некаторыя ўзьнялі бузу:

– Нашто нам беларуская мова, якая карысьць, – галаву забіваць толькі.

Больш салідныя экзэмпляры, зубры. так сказаць, канцылярскія, прабавалі й канкрэтна паставіць пытаньне адносна карысьці:

– Раней нам давалі прыбавачку за вывучэньне якой-небудзь чужаземнай мовы. А цяпер дадуць ці не?

Напісалі яны аб гэтай прыбавачцы й заяву ў адпаведнае месца. І калі давалі на подпіс служачым, дык толькі сторож адмовіўся:

– Я, кажа, і так граматны. А прыбаўкі вам усё роўна не дадуць.

– Чаму не дадуць?

– Ды не дадуць, – кажа. – Лепш і не таргуйцеся, бо ні капейкі не дадуць.

– А раней давалі.

– Ну, раней можа й давалі, а цяпер у Беларусі, кажуць, беларуская мова ўжо не чужаземная, і курс у гэтым пытаньні цьвёрды: «за чым сталом сядзіш, таму й песьні пей». А калі вам гэта не па носе, дык у вас ёсьць два выхады: ці вы асіліце беларускую мову, ці яна вас асіліць.

Не паслухаліся паштавікі старожа й заяву падалі.

Кажуць, што ім чамусь адмовілі ў прыбавачцы за вывучэньне беларускай мовы. Рэзалюцыя на заяве ясна гаварыла: «Отказать».

А шкада. Няхай-бы трохі людзі падвучыліся. І лісты можа-б хутчэй прыходзілі, і мытніцу ведалі-б, ды наогул, можа-б трохі паразумнелі.

### Трагедыя чыноўніцкай душы

За Грыгорыем Якавічам яго саслужыўцы пачалі прыкмячаць штосьць нясуразнае. Быў чалавек як чалавек і раптам – задумаўся. Прыйдзе ў аддзел. нават ня скажа звычайнага «здравствуйте» і сядзе моўчкі за стол. Адложа на шчотах костачку – і задумаецца, адложа другую – і падапрэ галаву рукой'..

– Нешта са Шпакам дзеецца, – шапталіся па кутках служачыя.

– Няйначай, як растраціў, – казалі адны.

– Не, факт, што закахаўся, – рашалі машыністкі.

– Госпо... граждане, – тлумачыў стары чыноўнік, – гэта ўсё ад беларусізацыі!..

Нават старажыха й тая заўважыла штосьць ненармальнае:

– Зьвіхнуліся наш Грыгоры Якавіч, – казала яна кур'еру – То-та бацька, айцец благачынны, сылёзак пральле.

Рашылі служачыя па-прыяцельску выпытаць у Грыгорыя Якавіча, што за навала такая навісла на яго сьветлай душы:

– Ды вы адкрыйцеся, Грыгоры Якавіч, што вас мучае.

Але Грыгоры Якавіч не хацеў «адкрыцца»:

– Так, – кажа, – жывот нешта сапсуўся... Мусіць, ад ватрушак, што ўчора наначы зьеў.

– А вы-б рыцыны выпілі з паўшклянкі – памагае, – раіў бухгалтар.

– Самае лепшае, вы клізмачку пастаўце, абавязкова клізмачку, – угаворваў стары чыноўнік...

Так цягнулася тыдні два. Нарэшце Грыгоры Якавіч «адкрыўся» свайму найлепшаму прыяцелю і аднадумцу Акакію Павуку, таксама духоўнага званьня. Здарылася гэта зусім выпадкова. Грыгоры Шпак і Акакі Павук ішлі каля Спаса-Ефрасінісўскага сабору й толькі хацелі перажагнацца на сьвяты храм, аж тут з-за вугла – тыц нейкі беларус.

– Цьфу, душу тваю ў ад, – вылаяўся Шпак, – і тут «яны». Перажагнацца спакойна не дадуць... Не, так далей ня можна. Іх штодня плодзіцца ўсё больш і больш, а мы маўчым...

– Даволі! – урачыста выкрыкнуў Шпак і так моцна стукнуў нагой на таламу сьнегу. што аж брызгі паляцелі. – Я паведу!.. Я буду прадаўжаць!..

І Грыгоры Якавіч Шпак, служачы акрфінаддзелу, стаў прадаўжаць вялікую справу. пачатую Пшчолкам, справу вызваленьня праваслаўнай Полацкай Русі ад беларускага іга.

***

Марозная раніца. Сьнег назойліва скуліць пад палазамі й сваім скрыпам наганяе на сэрца нуду. У санях двое. Сьпераду, уціснуўшыся ў салому, скорчыўшыся ад холаду, прытуліўся возчык Сымон... Ззаду, на сядзеньні, схаваўшы галаву ў каўнер заячай шубы, асеў Грыгоры Якавіч, тав. Шпак.

Тав. Шпак едзе ў м. Вулу па службовай камандыроўцы й зараз абдумвае плян свайго выступленьня перад вульскімі масамі з мэтаю растлумачэньня ім сутнасці беларускай мовы.



«Мова дрэнь, канешне, думае Шпак, але як аб гэтым сказаць. Сказаць, што яе няма – ужо старо. Пшчолка аб гэтым сказаў, ды цяпер ніхто й не паверыць. Сказаць, што «дубовый язык», – таксама ўжо гаварылі, «китайский язык» – таксама не адзін казаў. Што-ж бы такое надумаць?» Тав. Шпак думаў...

Між тым конь. перад выездам падкормлены аўсом, у гэтым месцы думак Шпака памахаў хвастом і...

– Вось і «яны» так на нас, – заварушылася ў галаве Шпака, – бяз сораму... Стой! Ёсьць! – выкрыкнуў раптам Шпак і аж падскочыў у санях. – Ёсьць! Ёсьць!.. Лашадзіны, конскага роду.

Фурман спалохаўся, стрымаў каня й рыхтаваўся ўжо выскачыць з саней.

– Ну, чаго стаў? – спахваціўся Шпак. – Паганяй жывотнае.

Конь крануўся. а тав. Шпак разьвіваў далей раптоўна ўскочыўшую ў яго галаву думку. «Так. так... конскага роду, лашадзіны язык... Так...».

***

Вульскі Нардом з выпадку прыезду прадстаўніка акруговага цэнтру быў перапоўнены да адказу. Усіх цікавіла, што скажа цэнтральная асоба.

Сход адчыніўся хутка. Насьпех пагаварылі аб тым, аб другім, і ўрэшце на сцэну выйшаў тав. Шпак. Заля заціхла. Шпак паправіў каўнер пінжака, выцер хустачкай нос і пачаў «лекцыю».

– Грамадзяне! Нам трэба высьветліць, што такое беларуская мова наогул і адкуль яна пайшла як такавая. Гэта, грамадзяне, разумець трэба. Нельга так браць з наскоку: «мова», «язык». А што такое мова, адкуль яна пайшла, з каго? Вось аб чым гаварыць трэба. Напрыклад, беларусы. Вы думаеце, якога яны роду, адкуль яны пайшлі, ад Авеля? Не, мыляецеся, я, прадстаўнік цэнтру, гавару вам: беларусы – конскага роду.

Грамадзяне пераглянуліся, некаторыя хіхікнулі, але слухалі далей: як-ніяк прадстаўнік з цэнтру.

– А што знача конскага роду? – пытаўся Шпак. – А тое й знача, што й язык у іх лашадзіны.

Тут нехта з кута запусьціў у прамоўцу гнілым яблыкам, а на задніх лаўках хтось заіржаў: «І-го-го-го...».

– Вось чуеце?..

Грамадзяне трохі здрэйфілі, а некаторыя да дзьвярэй паціснулі.

– Так, грамадзяне, лашадзіны язык, ён-жа паходзе...

– І-го-го-го, і-го-го-го, разам зь некалькіх кутоў перапынілі прамоўцу, і ў яго пасыпаўся град агрызкаў, а нехта шмаргануў старой калёшай. У залі стала весела.

– Бі яго, – крыкнуў хтось з грамады. А тав. Шпак нічога ня чуў. Узбудажаны. чырвоны ад злосьці, ён. сьціснуўшы кулак, крычаў:

— Лошадиный, лошадиный, несознательные лошади...

Грамада прыціхла. Неяк разам усе заўважылі, што чалавек гавора ня ўсур'ёз і, разам з тым, з сур'ёзным відам...

– Бедны, – дагадалася ўрэшце цётка Марцэля, – гэта-ж ён звар'яцеў, а мы сьмяемся.

– Я гэта яшчэ ў дарозе заўважыў, – заявіў возчык Сымон, – але не хацеў казаць, думаў, што на яго так сабе часам находзе.

Усім зрабілася нялоўка. Грамадзяне пачалі моўчкі разыходзіцца, а два крэпкія хлапцы трымалі Шпака за рукі, каб ён у прыпадку хваробы не пакалечыў сябе.

***

Зноў скрыпеў сьнег пад палазамі. Возчык Сымон вёз у горад тав. Шпака.

Грыгоры Якавіч прыціснуўся ў задку саней, панура схіліў галаву й мармытаў пасінеўшымі вуснамі: «Не зразумелі, не зразумелі, лошадзі, а я спадзяваўся... У-у-у лошадзі!» – крыкнуў ён са злосьці.

Возчык Сымон, як заўважыў, што яго яздок звар'яцеў на «конскім языку», стараўся папасьці хвораму ў тон і супакойваў:

– А вы, таварыш начальнік. начнеце з другога канца. Конь, вядома, жывёліна, у яе ёсьць і галава і хвост. Вось з галавы ня выйшла, дык вы з хваста папрабуйце, можа што й выйдзе...

У горадзе вестка аб вар'яцтве Шпака маланкай абляцела ўсіх саслужачых. У акрфінаддзеле саслужыўцы зноў шкадавалі Грыгорыя Якавіча:

– Бедны, яшчэ думаў к Вялікадню штаны новыя сшыць... Пашый цяпер...

– І з чаго-б такое найшло на чалавека, – дзівіліся рахункаводы.

– Гэта ў іх ад прыроды, – тлумачыла старажыха.

– Вось яна, беларусізацыя, дзе сказваецца, – шаптаў стары чыноўнік.

Ва ўсім горадзе толькі адзін чалавек ведаў аб сапраўдным становішчы рэчаў. Гэты чалавек – Акакі Павук. Але ён маўчаў. І ў апошнія часы, кажуць, стаў і ён задумвацца... І хто знае, можа праз некаторы час і ён выступіць на зьмену Шпака за «великое дело вызволения Полоцкой Руси».

Хто ведае? Бо Полацкая душа багата пацёмкамі.

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Вільня. Луцкевіч

**Трыпціх**

**І. 20 верасня 1939**

Вільня.
Восень.
Луцкевіч.
Ён ходзіць і шэпча
Сярод Базыльянскіх муроў:
«О няўжо, Беларусь,
О няўжо нам вяртаюць
Калыску за волю тваю змагароў?
О няўжо сапраўды
Нам вяртаюць,
Няхай і пад сцягам нянаскім,
Святы наш агмень?
Беларусь!
Я малюся, малюся...
Бог сведка,
Як прагну я ўбачыць шчаслівым
Твой заўтрашні дзень!..»

**ІІ. 30 верасня 1939**

Вільня,
Восень.
Луцкевіч.
Захмараны вечар.
Найчорны з яго вечароў.
Вось і ўсё!
Не паспеў і прыкленчыць
Яшчэ раз
Сярод Базыльянскіх муроў, -
Больш ніколі не ўбачыць ён іх,
Як не ўбачыць
Ні родных сваіх,
Ні сяброў.

У глухім «варанку»
Яго віленскім шляхам
У менскую «амэрыканку» вязуць,
Дзе,
Ён знае,
У лёхах сырых,
Пацукі
Беларускае сэрца грызуць.
Яму ведама ўжо:
Абманулі!
Цынічна і здзекліва
Брат-вызваленец накпіў.
Вільня ўжо старгавана.
Ужо за яе
Вызваленец
Пляцоўку для танкаў купіў.

Ён ад роспачы плача:
«Кастусь!
Наш вялікі з вялікіх Кастусь!
Як далёка ты бачыў,
Калі заклінаў:
«Дык не вер ім,
Не вер ім,
Не вер ім,
Не вер, Беларусь!
Не дадуць табе волі яны,
Не дадуць!
І павек не дажджэшся,
Калі не здабудзеш сама!
Для цябе ў іх адно –
Аняменне ў няволі –
І смерць.
Для цябе ў іх другога няма».



**ІІІ. 17 верасня 2004**

Вільня.
Верасень.
Ноч –
У зіхаценні раскошных рэклам,
У агнях ліхтароў.
Цень Луцкевіча
Ходзіць
Нябачны
Сярод Базыльянскіх муроў.
Каб прыслухаўся хто -
Чуйным сэрцам -
Пачуў бы,
Што кажа святы чалавек:
«Вось і ўсё!
Вось цяпер ужо ўсё!
Назаўсёды.
Навечна.
Навек.
Божа моцны!
Даруй і скажы:
Дзе ты быў?
Дзе ты, Госпадзе, быў,
Калі гэную змусту
Над воляй,
Над доляй,
Над лёсам народа рабіў
Змеявокі,
Рабы,
Сухарукі,
З смярдзючай душышчай
Вампір-людажэр?

Бачыш, Госпадзе, сам:
З той пары
Яшчэ больш занямог,
Яшчэ больш знядужэў –
І хварэе,
І чахне,
І не выздараўлівае
Пад апекай тваёй
Беларускі народ.
Дык не дай жа, не дай,
Каб заціх у душы яго
Спадчынны боль,
Каб сышла яго памяць на звод!
Бо як станецца так –
У яго, як і Вільню,
Суседзі, браты, сваякі адбяруць
Спрэс усе гарады,
Спрэс усё,
Што завецца яшчэ Беларусь!..
Беларусь...
Беларусь...»

Так ён ходзіць і ходзіць,
Нябачны,
І просіць і просіць -
Нячутнае просіць пачуць...
А тым часам у Менску,
У лёхах сырых,
Пацукі
Беларускае слова грызуць.

*2004, травень – кастрычнік*

**Антон Луцкевіч** (1884–1942) – знакавая асоба беларускага адраджэння ў XX ст. Адзін з утваральнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады і заснавальнікаў «Нашай Нівы», быў фактычным яе рэдактарам. Луцкевіч – асноўны аўтар Акту 25 сакавіка 1918 года, які абвяшчаў незалежнасць БНР. Ад верасня 1918 да лютага 1920 года Луцкевіч з'яўляўся Старшынёю Рады міністраў і міністрам замежных справаў БНР. Склаў першыя падручнікі па беларускай мове, выкладаў на настаўніцкіх курсах у Вільні, у Віленскай беларускай гімназіі. Быў заснавальнікам і дырэктарам Віленскага беларускага музея, старшынёю Беларускага навуковага таварыства.

У верасні 1939 года ў Вільні арыштаваны, 20 месяцаў правёў у турмах НКУС у Мінску і Маскве. Асуджаны да 8 гадоў зняволення. Па дарозе ў лагер захварэў і ў перасыльным пункце горада Аткарска 23 сакавіка 1942 года памёр ад паралічу сэрца. Пахавалі Луцкевіча на могілках Аткарска. У труну паклалі шыльду, на якой напісана прозвішча і нумар справы – 1100. Помнічкам была даска з нумарам.

**Базыльянскія муры** – значная віленская святыня. Таблічка, умураваная ў сцяну Святатраецкай царквы, сведчыць: «На месцы гэтага храма, у былым тут калісь дуброве, у палове XIV ст. прынялі пакутніцкую смерць за Праваслаўную Хрысціянскую веру святыя пакутнікі Літоўскія, Віленскія Цудатворцы – Антон, Іаан і Яўстафій». Князь Канстанцін Астрожскі пасля перамогі над маскоўцамі ў 1514 годзе замест старых драўляных цэркваў сваім коштам паставіў мураваныя – Святатраецкую і Мікалаеўскую. У 1608 годзе яны перайшлі ў валоданне базыльянаў. У мурах, скарыстаных як астрог, зведалі зняволенне філаматы і філарэты, тут трымалі арыштаваных паўстанцаў 1863 года, у тым ліку – Канстанціна Каліноўскага. З 1919 па 1944 у былых будынках кляштара месцілася Беларуская гімназія, а таксама Віленскі Беларускі музей.

# Буслы над Бычкамі, цэнзары над Віцебскам



Эдуард Агуновіч. Роднае гняздо. 2004

У тыя цёплыя летнія дні на радзіме Васіля Быкава жыхары вёскі Бычкі маглі назіраць дзіўную і незвычайную для іх карціну. З розных куткоў Беларусі збегліся легкавыя машыны да адноўленай сядзібы народнага пісьменніка. Далей-болей... У цэнтры вёскі, каля школкі, дзе некалі вучыўся малы Васілёк, як тыя грыбы пасля цёплага дажджу, з'явіліся рознакаляровыя намёты, вялізныя мастакоўскія парасоны... Маладыя хлопцы і дзяўчаты, сталыя з барадамі мужчыны пачалі расстаўляць свае прычындалы, нешта корпацца ў сваіх торбах, занатоўваць у альбомах... Як раней, дык можна было падумаць§ няйначай як важная камісія з вобласці прыехала... Адным словам – кантроль А можа няшчасныя соткі абразаць будуць. Бліжэй пазнаёміўшыся з прыезджымі, падазрэнні ў жыхароў на гэтым скончыліся. Прыехалі не абы-хто, а мастакі на радзіму славутага земляка. Пленэр па-іхняму.

А ўжо калі была сама цырымонія адкрыцця мастацкага пленэру, дык вяскоўцы пасмялелі, дзівіліся, радаваліся і былі самі ў цэнтры ўвагі. Да таго ж не так часта да іх завітваюць такія знаныя і вядомыя людзі, як Рыгор Барадулін, Вольга Іпатава, Уладзімір Някляеў, Уладзімір Сіўчыкаў, Міхась Скобла, Эдуард Агуновіч – усіх не пералічыш. Было хораша ў тыя летнія пленэрскія дні жніўня 2004 года. Вёска неяк адразу ажыла. У цэнтры намётаў узвышаўся і красаваўся бел-чырвона-белы сцяг як адзнака незалежнасці і свабоды. На гэтым невялічкім кавалачку беларускай зямлі мастакі тым самым пазначалі сваю і быкаўскую прысутнасць, памятаючы ягоныя словы: «Няма свабоды без незалежнасці і няма незалежнасці без свабоды».

У першы дзень, пасля наведвання музея-сядзібы Васіля Быкава, які, папраўдзе сказаць, яшчэ далёка як след не створаны, не хапае шмат якіх экспанатаў, прадметаў побыту, – мастакі басаНож панесліся да быкаўскіх азёраў. Пра гэтыя азёры асобная гамонка. Іх цяжка апісаць словам. Тое трэба бачыць. Крынічныя і велічныя, яны нібы пацеркамі аздабляюць камяніста-марэнныя краявіды Ушаччыны. Месцамі балоцістамяккія дрыготкія берагі, а недзе – пясчана-гладкія з жоўтым, як сонца, жвірам. Акунуцца ў гэтай чыстай крынічнай вадзе возера – гэта ўсё роўна што прыняць воднае хрышчэнне і тым самым адчуць яшчэ большую лучнасць з пращоркам нашае Айчыны. А над намётамі мастакоў, зусім не ўстрывожаныя, лёталі ў небе вольныя птахі – буслы, што звілі гняздо на слупе каля школкі, дзе Васіль правучыўся два гады.

Буслы над Бычкамі сталіся ці не асноўным матывам у мастакоў. Першым гэтую тэму паклаў на палатно Эдуард Агуновіч. Яго імпрэсія колераў была нечаканым адкрыццём для многіх мастакоў, якія, найперш, ведаюць Эдуарда як прафесійнага музейшчыка. На

Алесь Пушкін. Васіль Быкаў. 2004



Міхась Ляўковіч. Школа Васіля. 2004



Удзельнікі пленэру каля школкі, дзе вучыўся Васіль Быкаў



Янка Рамановіч. Першая школа Васіля Быкава. 2004



Яўген Шатохін. З нізкі «Землякі Васіля Быкава». 2004



Юры Платонаў. Сямён – аднавясковец Васіля Быкава. 2004

гэтай дзялянцы мастак шчыруе ўжо шмат гадоў. Ці не ўсе самыя значныя мемарыяльныя асяродкі культуры, звязаныя з жыццём і творчасцю славутых паэтаў, такіх як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, аздоблены ягонай руплівасцю і талентам. Маючы велізарны вопыт у гэтай справе, ён і тут, на радзіме Быкава, дзяліўся сваімі думкамі, якім ён бачыць сядзібу, дзе нарадзіўся славуты пісьменнік, і наогул усю вёску Бычкі. Нельга з ім не пагадзіцца, што малая радзіма вялікага сына Беларусі для кожнага з нас павінна стаць своеасаблівай Меккай, куды, каб удыхнуць ушацкае паветра, не павінна зарастаць сцяжына, каб Васілёва зорка вечна ззяла на нашым небасхіле.

Як на вялікае свята прыехаў на пленэр Алесь Пушкін. У нацыянальным строі, саламяным капелюшы ягоная высокая постаць асабліва выдзялялася сярод іншых. «Буду пісаць выяву Васіля Быкава. Быкаў для мяне – гэта велічная постаць. Як пісьменнік, ён бачыў апошнюю вайну не з вузкай траншэі бальшавіцкага акопа, а куды шырэй». Потым ягоны партрэт з'явіцца на выставе «Доўгая дарога дадому», прысвечанай памяці Васіля Быкава. Ды бачылі гэты твор гледачы ў Віцебскай галерэі сучаснага мастацтва ўсяго толькі адзін дзень. Назаўтра чыноўнікі, мастацтвазнаўцы ў штацкім знялі ягоны твор з экспазіцыі. Гэта ўжо не першы выпадак, калі тыранія сённяшняй цэнзуры «топчацца» па выставах мастакоў, якія адгукаюцца на нашую рэчаіснасць. Іншы раз думаеш, што мастакоў з маладых гадоў дзесяцігоддзямі вучылі праўдзіва адлюстроўваць жыццё. Метад рэалізму быў не чужы беларускай школе. Нехта лакіраваў, прыхарошваў, іншы – паказваў, як яно ёсць на самай справе. І калі мастак Алесь Пушкін намаляваў Васіля Быкава на фоне амапа, які заганяе нас на калгасную ферму, як тое быдла, і толькі анёлкі лётаюць з бел-чырвона-белымі сцяжкамі. Дзе зманіў, што прыхарошыў мастак? Ці ж не заганяюць усіх нас у гэты калгасны адстойнік. Куды дзецца астатнім, хто гэтаму праціўіцца. Хавайся ў бульбу? Бяжы ў лес! У знак салідарнасці з Алесем Пушкіным, пратэсту супраць дыктатуры цэнзуры, якая праявілася ў славяна-базарным Віцебску, мастакі, удзельнікі пленэру, вырашылі зняць з экспазіцыі ўсе свае творы. Безумоўна, шкада, што віцебскі глядач не ўбачыць рамантычныя акварэлі Аляксандра Шыёнка, творы Міхася Ляўковіча і Алега Скавародкі, спецыяльна створаную дзеля гэтай выставы інсталяцыю Уладзіміра Вальнова, згарманізавана-тонкія карціны Ігара Марачкіна, абагульнены краявід Ушаччыны Георга Ліхтаровіча, эцюды Уладзіміра Сулкоўскага, Янкі Рамановіча – усяго 50 твораў 26-ці мастакоў. Аднак гэты ўчынак можна разглядаць як грамадзянскую акцыю, своеасаблівы пратэст супраць самадурства мясцовых чыноўнікаў. Мяркуецца, што гэтая выстава, якая, дарэчы, паспяхова экспанавалася ў Наваполацку, будзе паказана ў Менску, хаця вядома, што і тут, у сталіцы, на варце стаяць тыя ж самыя цэрберы. Акрамя іншага, вядуцца перамовы, каб творы, створаныя падчас пленэру ўбачылі гледачы чэшскай Прагі, горадзе, у якім нейкі час жыў і тварыў Васіль Быкаў, а таксама ў Германіі і Фінляндыі.

**Алесь Мара**

Рыгор Барадулін і Алесь Марачкін на адноўленай сядзібе Быкавых.



# Алтары продкаў



Вячаслаў Дубінка

На гэтае унікальнае «каменнае» поле я патрапіў у пачатку сямідзесятых. Па шасейцы з Мінска ў Валожын, якраз пасярэдзіне, прывеціла вёска Пяршай. Праўда, хутка дарогабудаўнікі вынеслі Пяршаю прысуд, прарэзаўшы праз яе вясковае «сэрца» новую асфальтоўку. Тут ладны пагорак, разгон добры, а там да Валожына дамчаць, што куплет песні праспяваць. Будаўніцтва набрала імпэт, гарачы асфальтавы гудрон нядоўга курыўся пад цяжкімі каткамі няўмольнага паржавелага металу. Агрызак бляхі, прысабачаны на прыдарожным слупу, загадаў браць на аб'езд.. Збочылі, пагналі і патрапілі на каменнае поле. Колькі ахапіць вокам, камяні. Маўклівыя, сівыя рознакаляровыя валуны. Непадалёку папасваліся кароўкі, шчыльна ціснуліся да свае купы авечкі, а крыху воддаль сівы дзядзька з дубцом пільнаваў белых, што лунь, козачак.

– Пруцца сюды і каровы, і авечакі, – дзівіцца пастух з дубцом, гаспадар козачак, – козы з хлява такі разгон бяруць, якое ліха прывабіла. Адганяеш, усе адно пруцца, пастануць пасярод камянёў і маўчаць, вачамі лыпаюць, дзівяцца. Ну што тут цікавага, камянёў не бачылі. І, праўда, дзіва. Усе сцежкі з аднаго кута поля, а гэта некалькі кіламетраў, у іншы, супрацьлеглы абавязкова пралягаюць праз каменнае поле. І людзі часцяком сюды збочваюць, ідуць, узіраюцца. Мясцовыя прыгадвалі пра розныя дзівосы, на нячыстую сілу намякаючы. Калі маланка жала вогненнае выстрэльвае, дык ад гэтых камянёў пырскі наўкола сыплюцца. А ў месячную ночку яшчэ большае дзіва: камяні, што свечкі гарачь, нібыта пра свае каменныя байкі ў цішыні баяць. Нат у мінулую вайну сярод пяршайскіх камянёў раненыя чырвонаармейцы болькі крывавыя загойвалі, да камянёў прытуліўшыся.

## Прапітыя валуны

Набыткам прыроды нядоўга пяршайцы цешыліся. Пра цудадзейныя арыгінальныя камяні даведаліся хлопцы з братняе суседкі, у якіх сталіца Вільня. І навастрылі сюды аглоблі. І гукнулі прыезджыя летувіскія хлопцы мясцовых дзецюкоў. Хочаце зарабіць на пахмелку? Бачыце, камяні? За кожны валун, падкочаны, падвезены, паднесены да гэнае фуры, вы атрымаеце пляшку фірмовае гарэлкі. З сабой натхняльны напой прыхапілі, не па-гаспадарску ў аўтабудане адно паветра трэсці. Мясцовыя адгукнуліся. І пацягнуліся на каменнае поле параконкі, каляскі, матаконі з гушкалкай-люлькай. Цікавая дзея чакалася, скажу шчыра. Сюды б дасціпных кіношнікаў, каб праўдзівы кінадакуменцік шчаслівым нашчадкам пакінуць. Круціце, унукі, дзівіцеся, як вашы памяркоўныя дзяды, безгалосыя прадзеды ўпяцёх, плячо да пляча, на карачках, ботамі зямлю з травой бэрсаючы, сівога камяня да фуры тралявалі. Не жадаў з гэтымі мясцінамі назаўсёды развітацца. Камяням добра было тут, каля ціхмянай вёскі, у прыгожай мясціне, дзе і ўзгоркі, і лясок задумлівы, і птушкі вясёлыя, і козачкі паэтычна–цікаўныя, а людзі, што авечкі..

– Камень жа год ад году тут харашэў. Сонейка бокі каменныя яго лашчыць, дожджык слязьмі чыстымі іх шаруе, адмывае, а ветрык лагодна расчэсвае, – харашыня. Унучак мой разумненькі вычытаў у тоўстай кнізе, што камяні – пашпарт зямліцы нашай.

Гэта словы не мае, а таго пастуха, што козачак папасваў, ён жа пэўна меў душу паэтычную, калі так пра звычайныя камяні гаварыў, што калыханку ўнуку спяваў. Камяні прыбралі, але ўсё адно козачкі і авечкі збіваліся тут, дзе было пуста і гола. Якая неадольная сіла прыцягвала парнакапытных да гэтых мясцін. Каб жа ўсё ведаў, жыць нецікава было б...

## Граната не ўзяла

Унікальныя камяні я здымаю з тае пары, як упершыню, сорок гадаў таму, узяў у рукі сіроцкі фоталетапісец «Зеніт-С». На аматарскі фотаздымак патрапіў знакаміты валун у Кляпчанах, ёсць такая вёсачка за ракой Случ, ад Слуцака сем кіламетраў. Той дзівосны валун у рост чалавека аблюбаваў соткі былога камандзіра батальёна з Урэчча маёра Каранько, высокага, прыгожага, адчайнага. Камень яму плеш праеў, рашыў прыбраць. Прыгнаў танкетку. Байцы-няўмекі доўга валаводзіліся, павалілі ўжо агароджу, але камень непахісны, як былінны ваяр перад ворагам. Гукнуў гвардыі маёр сапёраў. Адзін з іх, сяржант, доўга не думаючы, звязаў некалькі супрацьтанкавых гранат, падкапаў ямку пад валун, тыркануў туды баекамплект, а сам з вяроўчынай схаваўся за хлявом. Па камандзе «Трымай, сабака!» – за вяроўчыну шасць – рванула, хлявок разнесла, байца кантузіла, а камень на месцы, адно бок абкурэўся. Пасля тае баталіі камень аблюбаваў Каранькоў сабака. Цюцька суткамі тырчэў каля каменя, самотна выючы па начах... Нібыта ведаў, што хутка ягонаму прытулку гамон. Са Слуцака прытупае «па каменную душу» Гнат Рудзеня.

## А случак здолеў

І, праўда, гукнулі Гната Руззденю, шукаць яго лёгка. Прайшоў дзвесце крокаў за майскапасадскія канавы, патрапіў на чыгуначны тупічок, куды штодня шкрабецца дахадзяга-паравоз клёпкі 1896 года з трыма платформамі, заваленымі магутнымі валунамі з Палесся. Іх з непрыхаванай цікавасцю чакае Гнат Рудзеня. Камяні – яго хлеб, чарка-шкварка, агурок салёны, чырвонец пакамечаны.

Гнат – каменедрабільшчык і з упартых валуноў робіць дробненькі шчэбень, якому жадны на новаспечаных будоўлях – Салігорскіх калійных камбінатах. Кляпчанскі валун Рудзеня ўгаварыў за тыдзень – атрымайце тры вазы дробнага шчэбеню. Гвардыі маёр Каранько адно дзівіўся, як гэты вол працаваў ад цямна да цямна, а пасля зжор адзін тры бочачкі салёных гуркоў і ўходаваў кубел сала. Праўда, да гарэлкі амаль не дакрануўся, прынцыпова не піў.

## Родны камень душу лечыць

Вёска Галяшонкі, што на Клеччыне. Тут пасярод вуліцы ўжо паўстагоддзя, як ганарысты пан, у людным месцы разлёгся камень. Брыгада шабашнікаў ўзялася давесці валун да прыдатнага стану – зрабіць жорны для мясцовага вадзянога млыну. Усё лета дзяцюкі «габлявалі» валун, атрымаўся вялікі каменны абаранак, засталося выдзеўбаць дзірку пасярэдзіне і начапіць жорны на шпень млына. Але гаспадар ўскіндрычыўся, заганьбаваў работу, а майстры, плюнуўшы ад роспачы, падаліся на новы хлебны ўчастак.

Нехта з дасціпных пусціў пагалоску, маўляў, камень у Галяшонках не просты даўбель, а таемнай сілай напоўнены, з людзьмі гэтай энергетыкай шчодра дзеліцца. І пайшло, паехала. Ідуць хлопцы ў войска – абявязкова сюды на гадзінку. Пасядуць на валун, памаўчаць – пашанцуе на службе. Дзяўчына замуж сабралася – бягом да каменя, ногі ў дзірку, сядзіць, маўчыць, пра долю сваю мяркуе. Канешне ж, і ёй пашанцуе..

А калі ж вясковыя п'янтосы да каменя ціснуліся, выжлукціўшы вядро гарэлкі, спявалі, балявалі, вясковыя мужыкі за калы і да п'янтосаў. Паганцы, святыню нашу, дый словамі брыдкімі, – гэць адсюль!

## Пан-гаспадар

Калі вы хочаце ведаць, куды зніклі шыкоўныя камяні, а яны ж паўсюдна цешылі вока вакол Мінска. Завітайце на вуліцу Ізмайлаўскую, у Сельгаспасёлак, Ждановічы, Бараўляны. Перад вамі паўстане дзіва. Магутныя забудовы-дзоты, абарончыя збудаванні а-ля Мірскі замак, унікальныя рэдуты трохпавярховых будынкаў з бутавага камення, дыхтоўныя трохметровыя ў вышыню агароджы і ў два метры таўшчынёй, вежы з вузкімі байніцамі, княжацкія палацы, дый шмат чаго яшчэ.

Новабуд з каменняў ахапіў усіх, хто мае капейку. Камяні па той прычыне крадуць з тэрыторый дамоў адпачынку, санаторыяў, батанічнага саду, паркаў, сквераў, дый і з музея камянёў, што ў раёне Уручча. Няўжо ўсё яна, прыцягальная энергетыка каменнага поля? І пэўна настане часіна, калі зікнуць каменні з людных месцаў, а таму давядзецца вазіць іх з Крыма ці Каўказа. Не верыце? Дарма.



Вольга ІПАТАВА

# ЗАДАРОЖЖА



**Напачатку студзеня ўсе паклоннікі творчасці нашай знанай пісьменніцы і грамадскай дзяячкі Вольгі Іпатавай адзначылі яе юбілей. Да гэтага дня спадарыня Вольга зрабіла сама сабе маленькі прэзент – надрукавала «падарункавым» накладам (299 асобнікаў) зборнік вершаў «Задарожжа». Некалькі вершаў з рэдкай кнігі рэдакцыя прапануе ўвазе чытача і шчыра зычыць шаноўнай паэтцы шчасця, поспехаў і радасці ад людзей і творчай працы.**

**Купала ў гатэлі «Масква»**

Ён падаў у жахлівы той пралёт,
Як падае падбіты самалёт,
Як сейбіт ва ўзараную раллю,
Ці метэор агністы ў зямлю.

Зрабіў не ўсе, што моц яго магла...
А змогся ад зламанага крыла,
Ад шэпату атрутнага ўначы
І ад таго, што ўсюды – крумкачы,

Што павуціннне ліпне па плячах,
Святло згасае у людскіх вачах
І ніву, што паэт засеяць змог,
Ачольвае пусты чартапалох...

Купала падаў – выбух і праклён.
І ззяў гатэль, як новы Вавілон.
Чало накрыла небам назаўжды,
Ды падалі наўсцяж сябры, браты

У доўгую, без слова, немату,
У вечную Сібір і мерзлату,
У допыты цямніц, жалеззе крат,
У д'ябальшчыну, дзе за чорта кат...

Ды чорных дзірак ультрафіялет
Адольвае паэта вечны свет.
З каленяў уздымаецца народ...
І – не ў пралёт Купалавы палёт!
*2004 г.*

**Курапаты**

Гэта тут тварылі шабас чорны,
Бралі ноч і сосны у хаўрус.
Тут малолі д'ябальскія жорны
Дух твой несмяротны, беларус!

Прарасці б травою скрозь прадонне!
Выцерці раздзёрты кляпам рот!
Ды у катаў ўчарашніх й сёння
Цяжкі, нібы жвір магільны, бот.

Толькі з-пад крывавае падэшвы
Рвецца крык – нібы з глыбінь зямлі:
«Дзетачкі мае! Унукі! Дзе ж вы,
Памянуць прыдзіце хоць калі!»

Тут яны – пяюць у карагодзе,
Дзетак цягнуць на атракцыён...
Ды калі ж ты скінеш, мой народзе,
Як наркоз, беспамятны свой сон?!

Над святынямі ўзламаеш краты,
Ўспомніш і падзеі, і часы.
Жменю ацалелую зярнятаў
Вырасціш калісьці ў каласы!
*2000 г.*

**Гісторык святла**

Генерал беларускага войска Кастусь Езавітаў,
Ты ў Нямеччыне. Судны твой дзень настае.
Ачапленнем сталёвым апошні прытулак абвіты,
І ўнукі Дзяржынскага крылы ламаюць твае.
А пасля павязуць на Усход.
І ў спецсховах Лубянкі
Упырамі ўвап'юцца ў душу, каб не помніў ані,
Як на снежнае поле кладзецца чырвона заранка,
Як сярэбраны Вершнік імчыцца на грозным кані.
Як у дзень сакавіцкі ўстае Беларусь – не, не мітам:
Сонцам, што над хлуснёю і гвалтам плыве.
Генерал і настаўнік, гісторык святла Езавітаў,
У адказ на «жыла» ты упарта гаворыш: «Жыве!»
Адступаюць жаўнеры твае.
Пыл на вуснах каменны.

Зрэнкі падаюць долу. Сышліся дарогі ў пятлю.
Як у гулкую студню быцця, у гнілым сутарэнні
Шэпчаш шраму небу: «Радзіма... Люблю...»
З крохкай восі зямное сарваўшыся метэарытам,
Адляцеў у паднябессе – і ў варце да гэтай пары...
Дэміург БНР, Беларусі святар Езавітаў,
За яе і за нас ты няспынна малітву твары!
*25 сакавіка 2004 г.*

**Хата**

Быццам капэлу на ранішняй месе
Стары настаўнік слухаў у лесе
Сосны, што стануць для хаты бярвеннем...
Ладзіў сугучча – на пакаленні.

Мільгала сякера бляскам сталёвым.
Бегаў унучак светлагаловы.
З сынам змывалі ў рэчцы знямогу...
Хату паставілі – на Перамогу.

Толькі жыццё зажадала іначай:
Сын у калгасе гады пралайдачыў..
Сказаў перад смерцю: «Доля такая».
...Унук у Сібіры нафту шукае.

...Кажаны абляталі хату пустую.
Шапталіся людзі:»Нябожчык вартуе».
Бачылі пасмы туману над дахам –
Казалі: «Нябожчык слухае птахаў».

Ганак драўляны прарос крапівою.
Толькі бярвенне ў хаце – жывое!
І па жывому, па цёпламу плача.
Хату купілі двое – пад дачу.

Едуць на лета з далёкага Мінску.
Кажуць, жыць перасталі па-свінску:
Зашыў ён пад скуру ампулу злую,
Яна блінцы на сняданак гатуе.

А побач – дарога. У святы ці будні
Заходзяць шафёры – тут смачная студня.
І, быццам лілея, сядзіць гараджанка,
І вецер пацяху варушыць фіранкі...

**Задарожжа**

Калі і на бохан не шкрэблася збожжа,
І бабуля з артрытам стагнала ў кутку,
Пехатой тупацела я ў Задарожжа*,
Галасавала там ля бальшаку.

У радні гарадской пазычыўшы грошай,
Я вярталася ў вёску, і было ўшчэ няўзнак,
Што калгас, дзе жывём мы ўсе – задарожжа,
І яго абмінае імклівы бальшак.

...Пасівелыя пасмы, як зімовая пожня.
Ды і па сённяшнім, па круцельскім лядку,
Люд наш выкоўзвaецца з задарожжа
Каб апынуцца на бальшаку...

* *Задарожжа – вёска ў Бешанковіцкім раёне*

**Каханне**

Так каханне мне сэрца ірвала!
Так туманіў твой смех галаву!
Бы ключы ў акіяне – схавала,
І спакойна на свеце жыву.

Толькі недзе, нібы па-за часам,
Выступае з-за шэрай імжы:
Мы стаім, закаханыя, разам,
І няма паміж намі мяжы.

А за намі, над намі ў світанні,
Як з Сусвету прыйшоўшы, гало
Залатым нас ахутаўшы ззяннем,
Над разлукай і злом узняло.

Пройдзеш міма... Парвецца дыханне...
Нескарона ўзгадаю: «Было!»
...Залатое высокае ззянне
І бязмернага шчасця святло.....

**Яно пасля смяялася з мяне...**

Усё бліжэй да Госпада вяртанне,
Усё далей юначыя грахі.
Як бегала калісь за мной Каханне!
Нібы за Пенелопай жаніхі.

Я ж летапісы «грызла» да змяркання,
Чакала – прынц ля ганка мільгане.
Уволю пасміхалася з Кахання...
Яно пасля смяялася з мяне...

**Завіруха**

Па-вар'яцку гула завіруха
Над самотнаю стужкай шашы.
Вы таропка шапталі на вуха
Скаргі на адзіноту душы.

Дотык вуснаў быў злы і гарачы,
Ды маю не кружыў галаву:
Адышла ад ілюзій юначых,
Без кахання адна пражыву.

Бо знаёмая ўжо да драбніцаў
Мне пачуццяў танюткая ніць,
Бо з атручанай гэтай крыніцы
Не збіраюся болей я піць.

Я глядзела і цвёрда, і горда,
Толькі штосьць, невядомае мне,
Камяком падступала да горла
І туманна мільгала ў акне.

І ўсё больш безнадзейна і глуха
Шэпат гаснуў ў шоргаце шын.
І шалёна гула завіруха,
І аўтобус ляцеў па шашы...

**Сустрэча**

Праглыну непазбежнасць, як хіну:
Досыць гэтых сустрэчаў – знямог!
Я прыгожая сёння, і кіну,
Захацеўшы, любога да ног.

На штыхах агароджы чыгуннай
Кустрасхрыстаны, як анархіст,
І дрыжыць, як палоннік пад гунам,
Кожны, ветрам асвістаны, ліст.

Ты прайшоў – і далёкі, і родны.
Вочы ўбок удваіх адвялі...
Незваротна. Усё незваротна –
І навечна ў паэме Зямлі...
*1990 г.*

* * *

Чарната. Асенняя знямога.
Рэдкі дождж шапоча па лісці.
І ў начы губляецца дарога,
Па якой дадому мне ісці.

Чым мацней сціскаў мае далоні,
Чым было прызнанне гарачэй –
Будзе больш пакутлівым бяссонне,
Сэрцу адзінокаму гарчэй...

* * *

Ад ліпеньскай спёкі сагрэлася хата,
І сталі палынна-трывожнымі ночы,
І жывіцца сэрца надзеяй крылатай,
Што ў шыбіну стукне вандроўнік аднойчы.

Вандроўнік з забытай даўнішняй паэмы,
Што ў папках запыленых згінула быццам.
І я, страпянуўшыся, гляну: « А дзе мы?
І як нам святлом жыватворным абмыцца?»

Інакшаю стану ў святле месяцовым:
Як мячык закінуўшы клунак за плечы,
Пайду па дарозе шукаць тое Слова,
Якое і кліча, і плача, і лечыць...

***Васілю Быкаву***
***Да гадавіны ягонай смерці***

У час, калі твая
Яшчэ не народжаная душа
Лётала над зямлёю,
Шукаючы сабе месца —
Ён, маладзенькі салдат,
Прыпадаў да яе грудзьмі,
Гасячы смяротныя пялёсткі агню.

У час, калі да тваіх
Дзіцячых пластылінавых мазгоў
Падбіраліся абцугі сістэмы,
На іх крыжам сумлення лёг
Яго Сотнікаў – і ты
Па Круглянскім мосце пайшоў
На іншы бераг – да праўды.

У час, калі пачынае зноў
Чарнавусы аскабалак мінулага клікаць
Да прывіднай светлай будучыні,
І прабівае «Стынгерам» самалёт,
На якім ты імкнешся ўзляцець –
Ён, Быкаў, ізноў і ізноў
Захіляе чорныя дзіркі сабой,

...Каб табе хапіла паветра да прызямлення
На аэрадроме Свабоды...

 



# Alma mater нашых асветнікаў

## *Віленскі універсітэт, яго гісторыя, роля, выкладчыкі*

Доўгі час у нас сцвярджалася, што першы беларускі універсітэт – гэта БДУ, створаны ў БССР у 1921 годзеЮ Крыху пазней успомнілі пра Полацкую езуіцкую семінарыю, якая існавала ў першай палове XIX стагоддзя. Няўжо беларусы стварылі сваю вышэйшую адукацыю так позна, значна спазніўшыся ў параўнанні з нашымі суседзямі?

У рэчаіснасці было наадварот: мы стварылі свой першы універсітэт значна раней за рускіх або ўкраінцаў – у 1578 годзе ў Вільні, у нашай старадаўняй сталіцы. Ініцыятарам стала буйная беларуская шляхта, якая мусіла вучыць сваіх дзяцей у замежных універсітэтах. На сейме 1569 года шляхта папрасіла караля Жыгімонта адкрыць у Вільні калегію. Ён даручыў гэта езуітам, якія тым годам прыехалі ў Вільню.

У наступным годзе яна была створана. У ёй вучылася 160 чалавек. Калегія мела цудоўную бібліятэку. Аднак калегія – гэта яшчэ не універсітэт, а беларуская моладзь пачала паглядаць у бок пратэстанцкіх універсітэтаў Еўропы, асабліва на вышэйшую вучэльню ў Круляўцы (Кёнігсбергу). Таму папская курыя і мясцовыя езуіты дамагаліся хутчэйшага адкрыцця менавіта універсітэта.

У 1578 годзе кароль Стэфан Баторы выдаў прывілей аб рэарганізацыі калегіі ў акадэмію. Прывілей быў зацверджаны булай папы Рыгора XIII. Першым рэктарам стаў вядомы кракаўскі езуіт Пётр Скарга. Пачалі дзейнічаць два факультэты – філасофіі і тэалогіі.

Акадэмія мела правы прысвойваць вучоныя ступені, мела выбарную адміністрацыю і права ўласнай юрысдыкцыі. Так, напрыклад, з 1583 па 1781 год атрымалі ганаровыя ступені 4076 чалавек. У студэнты набіралі юнакоў усіх хрысціянскіх канфесій, у тым ліку і праваслаўных. Аднак, на тэалагічны факультэт набіралі толькі па заканчэнні філасофскага і прыняцця каталіцтва, бо там рыхтавалі ксяндзоў. Але колькасць тэолагаў была невялікая. У 1587 годзе ў віленскай акадэміі вучыліся каля 700 студэнтаў.

Студэнты абодвух факультэтаў вывучалі дзяржаўную беларускую мову, таксама нямецкую і французскую. На факультэце філасофіі ім на першым курсе выкладалі логіку, на другім – рыторыку або філасофію прыроды, на трэцім – этыку і медыцыну або філасофію пра душу чалавека. Таксама выкладалі анатомію і фізіялогію.

У 16 стагоддзі была створана кафедра матэматыкі. Славілася і рыторыка. Існавалі нават мясцовыя падручнікі па гэтай дысцыпліне. Займаліся таксама метэаралогіяй і оптыкай. Кожны год выпускалі 20–30 чалавек для калегій і ксяндзоўезуітаў.

Структура прызначэння выкладчыкаў была касмапалітычнай. Кафедры і пасады прафесараў размяркоўваліся з Рыму тым асобам, якія там прайшлі курс прафесуры і мелі ступень доктара.

У фінансавым плане акадэмія была незалежная ад дзяржавы і не мела ад яе падтрымкі. Яе гадавы бюджэт складаў каля 40 тысяч злотых – гэта былі даходы ад зямельных уладанняў, ахвяраванні мецэнатаў, часам, вельмі значныя.



Галоўны ўнутраны двор універсітэта

Фундатарамі тагачаснай вышэйшай адукацыі ў ВКЛ выступалі вельмі ўплывовыя і багатыя людзі. У 1585 годзе Радзівіл Сіротка перавёз у Вільню з Брэста і перадаў Акадэміі пратэстанцкую друкарню свайго бацькі. Да канца XVI стагоддзя тут надрукавалі каля 60 кніг па філасофіі, тэалогіі і палітыцы. Сын Льва Сапегі — віцэ-канцлер ВКЛ Казімір Сапега перадаў 12.000 злотых на ўтрыманне на новым юрыдычным факультэце, які быў створаны ў 1644 годзе, 4 прафесарскіх пасадаў. У 1753 годзе мсціслаўская кашталянка Лізавета Пузыня дала грошы на будаўніцтва абсерваторыі.

У XVII–XVIII стагоддзях асноўнай мовай выкладання заставалася лаціна. У 1641 годзе кароль Уладзіслаў Ваза даў прывілей на адкрыццё 2 новых факультэтаў: юрыдычнага і медычнага. У 1650, 1669 гадах рэктар універсітэта Каяловіч напісаў на лаціне двухтомную гісторыю ВКЛ. У другой палове 18 ст. вучэбныя праграмы змяніліся. Пашырыліся аб'ёмы курсаў матэматыкі, фізікі і астраноміі. Вялікую дапамогу ў гэтым аказалі універсітэты Вены і Прагі. У 1752 годзе ўводзіцца самастойны курс матэматыкі. У 1753 годзе пачалі будаваць абсерваторыю. У гэтыя часы існавала і метэаралагічная станцыя.

Сярод найбольш вядомых выхаванцаў акадэміі можна назваць Мілецію Сматрыцкага, Сімяона Полацкага.

Зараз у Вільні існуе архітэктурны комплекс універсітэцкіх будынкаў XVI–XIX стагоддзяў. Гэта 13 асобных збудаванняў: ад готыкі да гістарызму. Комплекс мае 12 дворыкаў. Сярод іх Вялікі (прысвечаны першаму рэктару П. Скарзе), Абсерваторыі (прысвечаны Пачобуту), дворык Адама Міцкевіча, Лаўрэна Гуцэвіча (архітэктура пачатку 19 ст.), бібліятэкі і друкарні.

Вылучаюцца сваёй прыгажосцю касцёл св. Яна ў стылі барока (архітэктар Глаўбіц, рэканструкцыя 1738–1744 гг.) з 23 алтарамі, будынак Абсерваторыі (1752–1786).

Літоўскія рэстаўратары ў 1968-79 гадах аднавілі гэты комплекс. За гэтую унікальную працу яны атрымалі Залаты медаль Еўрапейскай кураторыі аховы помнікаў у 1985 годзе.

Пасля забароны ў 1773 годзе ордэна езуітаў акадэмію назвалі Літоўскай галоўнай школай. З 1781 года там сталі рыхтаваць медыкаў з вышэйшай адукацыяй. У Вільню перавялі гродзенскую медычную школу, створаную ў 1776 годзе Тызэнгаўзам. Сюды з Гродна прыехаў славуты навуковец Жалібер. Кіраваць дзейнасцю універсітэта стала Эдукацыйная камісія ВКЛ. Рэктарам доўгі час (20 гадоў) быў наш зямляк Пачобут-Адляніцкі, які надаў адукацыі амаль свецкі характар. Напрыклад, прафесар хіміі і фармацэўтыкі Снядэцкі напісаў і надрукаваў у 1800 годзе першы падручнік па хіміі. Таксама тут выкладалі архітэктуру, жывапіс, графіку і скульптуру.

Жылібер, як і ў Гародні, заснаваў у Вільні першы батанічны сад. З 1793 года існавала кафедра архітэктуры на чале з прафесарам Яўгенам Гуцэвічам. У 1798 годзе дзейнічае кафедра жывапісу, якой кіруе прафесар Смуглевіч, выпускнік рымскай Акадэміі мастацтваў.

Пасля раздзелу Рэчы Паспалітай у 1796 годзе вучэльня атрымала назву Галоўная Віленская школа. А 16 красавіка 1803 года Віленская галоўная школа стала універсітэтам. 30 траўня быў прыняты статут, куратарам быў князь Чартарыйскі, які кіраваў Віленскай адукацыйнай акругай, куды ўваходзіла ўся тэрыторыя Беларусі. Ён праводзіў палітыку паланізацыі. Рускую мову ў школах вывучалі толькі па жаданні вучняў, а беларуская мова да 1823 года была забаронена.

Ва універсітэце працавалі 4 факультэты. На іх выкладалі 47 прафесараў, прычым 36 былі родам з Літвы і Беларусі. Сярод іх гісторык Ля левель, батанік Юндзіл, медык Франк, астраном Пачобут, матэматык Снядзецкі, беларускі філолаг Міхаіл Баброўскі і гісторык Ігнат Даніловіч. Менавіта Баброўскі звярнуў увагу на спадчыну Скарыны, а Даніловіч вывучаў Статут ВКЛ і старабеларускія летапісы.

Сярод студэнтаў і выкладчыкаў існавалі як легальныя, так і таемныя гурткі. Гэта «Таварыства шубраўцаў («гультаёў»), філаматаў (аматараў навук), прамяністых і філарэтаў (аматараў дабрадзейнасці).

У іх бралі ўдзел такія вядомыя асобы як Тамаш Зан, Адам Міцкевіч, Ян Чачот. Яны склалі падмурак будучага беларускага Адраджэння другой паловы XIX стагоддзя. Напрыклад, у статуце «Прамяністых» было запісана, што трэба любіць сваю «прыродную» мову і вывучаць яе.

Шмат прафесараў і студэнтаў узялі ўдзел у паўстанні 1830–31 гадоў, і таму царскія ўлады ў 1832 г. зачынілі універсітэт.

І толькі ў кастрычніку 1919 года, калі палякі занялі Вільню, ён зноў адчыніў свае дзверы. Адраджэнне універсітэта віталі Янка Купала і іншыя дзеячы Беларушчыны. Было створана 6 факультэтаў, універсітэт атрымаў імя Стэфана Баторыя. З 1922 года універсітэт выдаваў свой штомесячны часопіс. У ім працавалі Ластоўскі, Дэмбоўскі, Урублеўскі і археолагі супругі Галубовічы.

Пры універсітэце існаваў беларускі студэнцкі саюз, які выдаваў газету «Студэнцкая думка».

15 снежня 1939 года новыя літоўскія ўлады зачынілі гэты універсітэт, а ў яго будынкі перавялі некаторыя факультэты Каўнаскага універсітэта. 19 сакавіка 1943 года іх зачынілі немцы. Дзейнасць універсітэта аднавілася ў 1945 годзе ў Савецкай Літве. Літоўцы цалкам перавялі ў Вільню універсітэт з Каўнаса. Былыя польскія

 

 





Від на Вострую браму і старыя гмахі Вільні з вышыні птушынага палёту. На заднім плану бачная вежа універсітэцкага касцёла святога Яна



Адзін з карпусоў універсітэта

выкладчыкі ў чэрвені 1945 года пераехалі ў Торунь (Польшча), дзе заснавалі універсітэт імя Каперніка.

Заслугоўваюць асобнага слова выкладчыкі і студэнты універсітэта – адкуль паходзілі гэтыя асобы і што зрабілі яны для развіцця навукі і культуры Беларусі.

Першы рэктар Пётр Скарга (Павенскі) паходзіць з Мазовіі. Ён скончыў Кракаўскую акадэмію, вучыўся ў Рыме. З 1569 года стаў езуітам. Менавіта ён заснаваў Полацкі езуіцкі калегіум, быў выключным аратарам. Пётр Скарга быў ініцыятарам стварэння Брэсцкай вуніі. Ён таксама здолеў угаварыць Радзівіла Сіротку пакінуць пратэстантаў і вярнуцца ў каталіцкае веравызнанне.

У сярэдзіне XVII стагоддзя вызначыўся сваёй унікальнай працай па гісторыі ВКЛ рэктар Віленскага універсітэта Каяловіч. У гэтай працы, напісанай на лацінскай мове, прасочваліся мясцовыя «краёвыя» настроі і мясцовы патрыятызм.

У XVIII стагоддзі колькасць мясцовых прафесароў і студэнтаў значна павялічылася. Мясцовая шляхта была зацікаўлена, каб іх дзеці пасля заканчэння універсітэта маглі застацца ў ім працаваць у якасці выкладчыкаў. Гэтаму спрыяла і тое, што змяніліся вучэбныя праграмы і пашыраліся курсы дакладных навук. З'явіліся такія навуковыя установы, як абсерваторыя, метэаралагічная станцыя, а пазней і батанічны сад. І ўсюды былі патрэбныя спецыялісты.

У гэты час кіраваў Віленскім універсітэтам выдатны беларускі навуковец, Марцін Пачобут-Адляніцкі. Ён нарадзіўся ў 1728 годзе ў маёнтку Саломенка (сёняшні Гродзенскі раён). У 1764 годзе стаў прафесарам Віленскай акадэміі. Пачобут быў навукоўцам еўрапейскага ўзроўню, уваходзіў у склад Каралеўскай Акадэміі навук у Лондане (1769) і французскай каралеўскай акадэміі (з 1778 года). Цікава, што пачатковую адукацыю Пачобут атрымаў на радзіме, дзе скончыў Гродзенскі езуіцкі калегіум. Кіраваў універсітэтам ён доўга, амаль 20 год – з 1780 па 1799 год. Адначасова Пачобут кіраваў і віленскай абсерваторыяй. Разам з Шаброўскім у 1752 годзе сп. Марцін уводзіць самастойны курс матэматыкі. У 1773 годзе Пачобут прапануе каралю Рэчы Паспалітай стварыць у Вільні Акадэмію навук, аднак гэтая ідэя не знайшла падтрымкі. З 1774 па 1790 год ён адначасна рэдагаваў мясцовую «Віленскую газету». Меў Пачобут і выразную грамадзянскую пазіцыю, быў удзельнікам паўстання 1794 года.

З 1806 па 1815 год рэктарам і адначасова дырэктарам Віленскай абсерваторыі быў Ян Снядэцкі. Ён паходзіў з Польшчы, гэта быў выдатны матэматык, астраном, філосаф і асветнік. Пры ім у Вільні быў створаны адзін з лепшых у Еўропе батанічны сад, у якім у 1824 годзе налічвалі каля 7 тысяч раслінаў.

Плённа працаваў прафесарам хіміі, а потым медыцыны малодшы брат рэктара – Андрэй Снядэцкі.

У 1798 годзе адкрываецца кафедра жывапісу на чале з прафесарам Францішкам Смуглевічам, яскравым прадстаўніком класіцызму на Беларусі, выпускніком Рымскай акадэміі мастацтваў. У Віленскім універсітэце ён працуе з 1797 па 1807 год. Менавіта ён аформіў залу ў бібліятэцы вучэльні, якую зараз называюць залай Смуглевіча. Францішак Смуглевіч шмат ездзіў па Беларусі. Ён распісваў храмы Менска, Гародні, Полацка і Рэчыцы. Гэта выдатны мастак-баталіст. Шырокую вядомасць набылі яго палотны «Бітва каля Берасцечка» (1651) і «Бітва пры Хаціне» (1673).

У канцы XVIII ст. дзейнічае кафедра архітэктуры на чале з нашым земляком, выдатным літоўскім і беларускім архітэктарам Лаўрэнам Гуцэвічам, таксама прадстаўніком школы класіцызму.

З выдатных беларускіх гісторыкаў першай паловы XIX стагоддзя, выкладчыкаў Віленскага універсітэта варта адзначыць Ігната Даніловіча і Міхаіла Баброўскага.

Даніловіч нарадзіўся ў 1787 годзе на Беласточчыне (Бельскі павет) у сям'і уніяцкага святара і скончыў Віленскі універсітэт у 1812 годзе. З 1814 па 1824 год выкладаў права, у 1822 годзе стаў прафесарам. Ён першы навукова апісаў усе Статуты ВКЛ і марыў пра адраджэнне гэтай дзяржавы. Асаблівую ўвагу звярнуў на старабеларускую мову, на якой былі напісаны статуты ВКЛ.

Баброўскі таксама родам з Бельскага павета і таксама яго бацька быў уніяцкім святаром. Гэта выдатны беларускі славіст і арыенталіст, сябра Археалагічнай акадэміі ў Рыме. У 1823 годзе атрымаў навуковую ступень доктара тэалогіі. Прафесарам Віленскага універсітэта працаваў двойчы (1822–1824, 1826–1833). Гэта адзін з першых даследчыкаў беларускага кнігадрукавання, які ў 1822 годзе адкрыў для навукі славуты Супрасльскі летапіс.

Іаахім Лялевель працаваў у Віленскім універсітэце двойчы (1815–1818, 1821–1824) выкладчыкам, кіраваў кафедрай усеагульнай гісторыі. Ён нарадзіўся ў 1786 годзе ў Варшаве, але яго маці паходзіць з беларускай шляхты. Дарэчы, Іаахім сам вучыўся ў Віленскім універсітэце, скончыў яго ў 1808 годзе. Ён адным з першых звярнуў увагу еўрапейскіх гісторыкаў на існаванне і дзейнасць Полацкай дзяржавы, якую называў Полацкай рэспублікай і параўноўваў з Ноўгарадам. Менавіта ён аўтар знакамітага дэвіза «За нашу і Вашу свабоду!» Пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гадоў жыў у Парыжы.

У гэты час пачала фармавацца новая беларуская інтэлігенцыя, якая яшчэ гаварыла па-польску, але лічыла сябе нашчадкамі старажытных ліцьвінаў, шанавала і ведала беларускую мову. Сярод выпускнікоў і студэнтаў Віленскага універсітэта варта прыгадаць Ігната Дамейку, Юльяна Славацкага, Яна Чачота, Тамаша Зана.

Напрыклад, у ганаровым дыпломе, які Дамейка ў другой палове XIX стагоддзя атрымаў у Кракаве, напісана, што ён не паляк, а ліцьвін. Дух адраджэння былой велічы ВКЛ лунаў у старых універсітэцкіх мурах. Колькасць студэнтаў з 1803 да 1830 года павялічылася з 314 да 1.320 чалавек. Амаль палова іх былі родам з Літоўска-Віленскай губерні.

У апошнія гады існавання універсітэта з 47 яго прафесараў 36 былі родам з Літвы і Беларусі.

Закладзеныя імі традыцыі ўвагі да роднай даўніны і культуры сталі сапраўдным падмуркам беларускага адраджэння напрыканцы XIX стагоддзя.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**



 

# Новы шок?



Колькі каштуе бараль нафты? Рынкавыя кошты падняліся з 10 даляраў за бараль у 1998 годзе да 55 даляраў напрыканцы мінулага года. Але Усама бен Ладэн сказаў бы, што да 144 даляраў, калі судзіць па выкрывальнай прамове, у якой ён абвінавáціў ЗША ў тым, што скарыстоўваюць ваенную прысутнасць у Саудаўскай Аравіі для стрымання росту коштаў. Назваўшы гэта «найвялікшым рабункам у гісторыі», ён заявіў, што з-за ЗША страчана 36 трыльёнаў даляраў нафтавага прыбытку. Каб падмацаваць сваю аргументацыю, у снежні 2004 года Аль-Каіда зноў заявіла пра свой намер атакаваць нафтавую інфраструктуру Саудаўскай Аравіі.

Перад 11 верасня 2001 года спецыялісты па энергетычнай бяспецы запэўнівалі адзін аднаго, што, калі тэрарысты атакуюць саудаўскія нафтавыя свідравіны, ЗША пашлюць войскі на абарону нафты. Гэта быў галоўны вынік першай вайны ў Персідскай затоцы. Сёння ў тэрарыстаў можа быць ядзерная зброя. Але калі нават яе няма, мы можам перажыць новы нафтавы шок. Справа не ў дэфіцыце. Нягледзячы на нядаўнія заявы аб хуткім змяншэнні запасаў, нафты хопіць на шмат дзесяцігоддзяў. Па меры таго як свет з'ядае рэзервы, якія знаходзяцца за межамі АПЕК, напрыклад, у Паўночным моры, доля Персідскай затокі будзе расці. І верагоднасць праблемаў таксама.

Хуткага рашэння няма, бо сёння няма практычнай альтэрнатывы нафце. Дадайце да гэтага неабуладкаваныя сховішчы, асабліва ў маларазвітых краінах, і вы ўбачыце свет, даступны для шоку. У доўгатэрміновай энергетычнай палітыцы пераважаюць тры рэкамендацыі: расслабнуць, працягваць дабычу і ездзіць на ровары.

Нядзіўна, што нафтавы міністр Саудаўскай Аравіі Алі Наімі сцвярджае, што ў краіне маюцца дадатковыя магутнасці, якія дазваляюць вырашыць любыя нечаканасці. У доўгатэрміновай перспектыве нафта – гэта залежалы тавар, які нічога не каштуе, калі на яго няма попыту. Але, як паказала іранская рэвалюцыя, нават кароткатэрміновыя перабоі здольныя выклікаць хаосю

Калі першы лагер хоча, каб мы «расслабілі», другі хоча «працягваць дабычу». Абаронцаў наваколныага асяроддзя абурае намер Джорджа Буша правесці праз кангрэс дазвол на свідраванне ў Арктыцы, скарыстоўваючы лазейку ў законе. Буш настойвае, што гэта апраўданая мера. Але трубаправод на Алясцы сам па сабе небяспечны (глядзі здымак), яго ўжо атакавалі мясцовыя насельнікі. Ён амаль не абаронены ад тэрарыстаў. Апроч таго, Амерыка спажывае чвэрць сусветнай нафты, маючы ўсяго 3% разведаных запасаў, што робіць надзею на «энергетычную незалежнасць» прывіднай.

Віцэ-прэзідэнт Дзік Чэйні ў 2001 годзе сказаў, што «абарона наваколнага асяроддзя можа быць прыкметай асабістых вартасцяў, але не асновай энергетычнай палітыкі». Зялёныя могуць заклікаць «ездзіць на роварах», але гэта не палітыка, бо вынікам з'явіцца памяншэнне ацяплення, асвятлення і мабільнасці. З іншага боку, павелічэнне энергетычнай эфектыўнасці - гэта добра, а згортванне палітыкі, якая субсідзіруе ці скажае энергетычныя рынкі, яшчэ лепш.

Лепшым спосабам умацавання энергетычнай бяспекі Амерыкі з'яўляецца павышэнне абсурдна нізкіх падаткаў на бензін. Паступовы рост падатку на вуглекіслы газ дасць рынкам зразумець, што спальванне нафты каштуе немалых грошаў. Такая палітыка стане стымулам для інавацыяў і інвестыцыяў у чыстую энергію, напрыклад, у клеткавае паліва. Калі гэтая тэхналогія праб'е сабе шлях, гэта нават можа азначаць смерць АПЕК. Паколькі гэта вадароднае паліва, а вадарод можна здабываць дзе заўгодна, новы энергетычны свет ніколі не стане закладнікам тэрарыстаў.

Такая энергетычная рэвалюцыя можа пакончыць з залежнасцю ад нафты. Гэта будзе дабрадзейны энергетычны шок.

*Financial Times*

# Прэм'ер-міністр Украіны



Юля Цімашэнка – надзвычай папулярная 44-гадовая дзеячка апазіцыі – была правай рукой Віктара Юшчанкі на працягу ўсёй «Памаранчавай рэвалюцыі». Перад сваім першым прэзідэнцкім візітам за мяжу – у Маскву – Юшчанка падпісаў указ аб прызначэнні Цімашэнкі в. а. прэм'ер-міністра. Гэта не стала нечаканасцю ні для бальшыні ўкраінцаў, якія цяпер Цімашэнку моцна шануюць, ні тым болей для яе самой.

Аднак у яе неадназначная, а то і супярэчлівая рэпутацыя ва ўкраінскай палітыцы. Крытыкі, сярод якіх ёсць і некаторыя прыхільнікі Юшчанкі, заяўляюць, што яна занадта радыкальная, каб узначаліць урад, якому цяпер выпадае выканаць перадвыбарныя абяцанні – рэфармаваць адносіны паміж дзяржавай і бізнесам, умацаваць сувязі з Захадам, перамагчы карупцыю чыноўнікаў і адначасна захаваць кволую кааліцыю.

Іншыя ўзгадваюць цёмны перыяд сярэдзіны 1990-х гадоў, калі Цімашэнка зарабіла мільёны на гандлі дзяржаўным газам, што адгукнулася ёй двухсэнсоўным «тытулам» «газавай прынцэсы».

Прызначэнне Цімашэнкі яшчэ павінна быць ухвалена ўкраінскім парламентам. Аднак нядаўна яна паведаміла журналістам, што шанцы на яе ўхваленне складаюць «100 працэнтаў».

Эканаміст па прафесіі Цімашэнка паходзіць з Днепрапятроўска – таго ж прарасійскага ўсходняга рэгіёна Украіны, што і галоўны супернік Юшчанкі на прэзідэнцкіх выбарах Віктар Януковіч.

У цяперашні час яна ачольвае партыю «Бацькаўшчына» – моцны цэнтрысцкі апазіцыйны блок. У 1995–1997 гадах Юля Цімашэнка кіравала «Адзінымі энергасістэмамі Украіны», прыбытковым энергетычным канцэрнам, у якім таксама працавалі ейныя муж і свёкар, што пазней стварыла для яе праблемы як для адказнага службоўцы.

Палітычная кар'ера Цімашэнкі пачалася ў сакавіку 1998 года з выбараў у парламент. Неўзабаве яна ўзнялася да пасады віцэ-прэм'ера ў рэфарматарскім урадзе Юшчанкі.

Цімашэнка дасталася задача ачысціць карумпіраваны энергетычны сектар Украіны, і яна прымушала бізнес плаціць за паставкі энерганосьбітаў. Калі ў 2001 годзе яна паспрабавала правесці рынкавыя рэформы ў вугальным сектары, Кучма нечакана адправіў яе ў адстаўку. Гэта супала з адстаўкай Юшчанкі з пасады прэм'ера. Тады Юля Цімашэнка перайшла на бок апазіцыі і сфарміравала ўласную партыю.

Кучма – якога Цімашэнка пазней назвала «рудым тараканам» – высунуў супраць яе абвінавачванні ў карупцыі за нібыта кантрабанду газу. Былая віцэ-прэм'ер была затрымана і пэўны час правяла ў турме пад следствам, што прынесла ёй яшчэ большую павагу ў грамадстве і выклікала акцыі пратэсту ў яе падтрымку. Што больш важна, гэта зарадзіла былую віцэ-прэм'ершу ненавісцю да існуючага рэжыму і да тых, хто быў з ім звязаны.

Нягледзячы на тое, што Цімашэнка давялося абвяргаць абвінавачванні ў карупцыі ў часе перадвыбарнай кампаніі, яна захавала агрэсіўную пазіцыю ў адносінах да дзелавой і палітычнай эліты краіны, абяцаючы вызваліць ненасытных алігархаў з цэнаю.

За месяц да першага тура выбараў расійская ваенная пракуратура раптоўна, відаць, каб аслабіць Юшчанку, пачала следства супраць Цімашэнкі, абвінавачваючы яе ў подкупе супрацоўніка расійскага МУС некалькі год таму. Яна адмаўляе гэтае абвінавачванне і лічыць яго палітычна матываваным.

У часе сустрэчы ў Крамлі з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным Юшчанка пастараўся не ўзгадваць пра публічную падтрымку Крамлём Януковіча, а Пуцін у адказ не закранаў кандыдатуру новага прэм'ера Украіны.

Аднак у Расіі Цімашэнка па-ранейшаму лічыцца ў вышуку. А Генеральны пракурор РФ Усціноў, выступаючы перад дэпутатамі Дзяржаўнай Думы, заявіў, што справа супраць Юлі Цімашэнкі не будзе закрытая, а гэта значыць, што ў выпадку паездкі Цімашэнкі ў Расію нават у якасці другой службовай асобы Украіны яна можа быць затрымана расійскімі праваахоўнымі органамі. Як будзе развязаны гэты вузел – застаецца вялікай інтрыгай.

*The Washington Times*

# Таямніца плашчаніцы



Зноў пачынаюцца навуковыя спрэчкі вакол сапраўднасці і ўзросту Турынскай плашчаніцы. У 1998 годзе вучоныя з трох розных універсітэтаў прыйшлі да высновы, што плашчаніца была зроблена паміж 1260–1390 гадамі і ніяк не магла быць сведкам раскрыжавання Хрыста.

Амерыканскі хімік Рэймонд Роджэрс аспрэчвае гэтыя даследаванні. У навуковым часопісе «Тэрмакіміка акта» апублікаваная яго праца, дзе прыводзяцца доказы, што плашчаніца была выраблена тры тысячы гадоў таму.

Роджэрс удзельнічаў у даследаванні плашчаніцы яшчэ ў 1978 годзе, калі працаваў у Нацыянальнай лабараторыі ў Лос-Аламасе. Ён сцвярджае, што пры радыевугляродным аналізе былі выкарыстаны няправільныя пробы. Менавіта таму вучоныя прыйшлі да высновы, што ўзрост тканіны не перавышае 800 гадоў. Пасля пажару 1532 года манахі аднавілі страчаныя кавалкі плашчаніцы, наклаўшы заплаткі. З іх і ўзялі ніткі на пробы.

За вынікам гэтага даследавання з'явілася скандальная заява кардынала Анастасіо Альберта Балестэра аб тым, што плашчаніца сапраўды з'яўляецца падробкай.

Роджэрс правёў іншае даследаванне. Ён адзначыў, што ў валокнах палатна плашчаніцы адсутнічае хімічнае рэчыва ванілін, якое было знойдзена ў латках. Ванілін з'яўляецца прадуктам распаду лініну рэчыва – лініну, які прысутнічае ў ільне. Утрыманне ваніліну ў матэрыяле з цягам часу падае, што дае магчымасць ацэньваць узрост валакна.

Вучоны кажа, што ўзрост тканіны, якую скарысталі ў якасці латкі, сапраўды налічвае не болей за 800 гадоў, аднак узрост самой плашчаніцы можа быць нашмат большы. Роджэрс лічыць, што плашчаніца павінна быць вельмі старая, бо ў пробах, якія ўзялі з месцаў, не пашкоджаных пажарам, зусім не было знойдзена ваніліну. Таму ён лічыць, што сапраўдны ўзрост плашчаніцы можна акрэсліць да 3.000 гадоў. Таму ў яе мог быць завёрнуты Хрыстос.

# Я – імператар



Чым болей худнее дэмакратыя, тым болей крамлёўская ўлада мажнее імперскай веліччу. На афіцыйных цырымоніях расіяне бачаць Пуціна, які крочыць сярод гвардзейцаў у гістарычных строях ці сярод раскошы аднолькавых залаў у крамлёўскіх палацах, у якіх сёння месціцца крамлёўская ўлада.

Пуцін найперш імкнецца да канцэнтрацыі ўлады ў сваіх руках. Гэта бачна хоць бы па рашэнні аб прызначэнні губернатараў Крамлём. У разуменні «сілавікоў» – прадстаўнікоў «сілавых» міністэрстваў і спецыяльных службаў – менавіта гэтак лепей дасягнуць стабілізацыі ў краіне.

Напачатку свайго праўлення Пуцін здзейсніў свет смелымі эканамічнымі рэформамі. Ён увёў нармальныя падаткі, заняўся рэструктурызацыяй энергетыкі. Але сёння моцна трымаючыся на крамлёўскім троне, «імператар Уладзімір Пуцін» адкладае амбіцыйныя планы, напрыклад, рэформы архаічнай банкаўскай сістэмы. Аднак рэакцыя грамадзянаў на некаторыя з прапанаваных зменаў – напрыклад, масавыя пратэсты супраць спробаў пазбавіць іх савецкіх ільготаў – пераконвае Крэмль у тым, што дзеля спакою лепш не антаганізаваць грамадства.

Аднак Пуцін не выдумляе нічога арыгінальнага. Ён толькі вяртаецца да гістарычных узораў эпохі царскага самаўладдзя. Тры стагоддзі назад, пры Пятры І (якога Пуцін лічыць за ідала), у Расіі вялізныя капіталы алігархаў раслі гэтак жа хутка, як і сёння. Кар'еры рабіліся дзякуючы міласці цара, які шчодра раздаваў маёнткі і ліцэнзіі на даходныя сферы дзейнасці. Сярод тагачасных алігархаў самую выбітную кар'еру зрабіў сябра цара Аляксандр Меншыкаў. Гэтак жа сама, як сёння Абрамовіч ці Хадаркоўскі, ён зрабіў сваё багацце на экспарце расійскай сыравіны – праўда, тады гэта была не нафта, а скуры, дзёгаць і мёд. Зароблены капітал ён, як і сённяшнія алігархі, трымаў у банках Лондана і Амстэрдама. Аднак імператар меў звычку запускаць руку ў кішэні падданых, калі ў дзяржаўным бюджэце з'яўляліся дзіркі. Тады магнаты ішлі да ганебнага слупа ці на эшафот, а іх маёмасць канфіскоўвалі. Спазнаў неміласць і Меншыкаў. Пасля дзесяцігадовага следства царскія службы прысудзілі яго за хітрыкі з падаткамі да выплаты гіганцкага па тым часе штрафу – мільёна рублёў (восьмая частка тагачаснага бюджэту Расеі).

Адчуванне няззменнасці відавочнае, толькі сёння канфіскацыя маёмасці наносіць удар па даверы замежных інвестараў і расійскіх бізнесменаў. Толькі за мінулы год з Расіі вывезена 9 мільярдаў даляраў. Але ўладу ў Крамлі гэта ніяк не непакоіць. «Патрабаваць ад махляроў выплаты падаткаў – наша ўнутраная справа», – парыраваў крытыку распраў з «Юкасам» намеснік кіраўніка крамлёўскай адміністрацыі Уладзімір Суркоў. Крытыка, якая ідзе з Захаду, была ўспрынятая як умяшальніцтва ва ўнутраныя справы Расіі.

«Разам з ачарненнем Захаду вярнулася старая імперская рыторыка. Але яна адрасавана найперш расіянам, якія павінны адчуваць, што прэзідэнт абараняе іх ад знешняга зла», – тлумачыць палітолаг Аляксей Макаркін з Цэнтра палітычных тэхналогіяў.

Магчыма, гэта і парадокс, але палітычныя адносіны з прадстаўнікамі таго самага Захаду, які кляйміць крамлёўскі правіцель – з Германіяй, Францыяй і ЗША – выглядаюць нядрэнна. Квітнее эканамічнае супрацоўніцтва. З іншага боку, Германія і Францыя даволі стрымана рэагавалі на поспехі ўкраінскай апазіцыі, на якія коса паглядалі з Крамля. Усё толькі дзеля таго, каб не раздражняць Маскву. Пуцін дасканала карыстаецца кан'юнктурай і мэтанакіравана развівае добрыя стасункі з Заходняй Еўропай, падтрымліваючы, напрыклад, палітыку Берліна і Парыжа па Іраку. Зразумела, справа не ў Іраку, а ў тым, каб забіць клін паміж Еўропай і ЗША.

Для заходніх палітыкаў Пуцін – нават калі ён рухаецца да аўтарытарызму – гарант спакою і саюзнік у барацьбе з ісламскім фундаменталізмам. Прэзідэнт Расіі выдатна гэта адчувае, а набытым полем манеўру карыстаецца дзеля таго, каб аднавіць уплыў на суседнія краіны. «Расіяне, пра што сведчаць усе апытанні, не жадаюць змірыцца са стратай уплыву на былыя савецкія рэспублікі», – гаворыць маскоўскі публіцыст Леанід Радзіхоўскі.

Пуцін працягвае патрабаваць, каб расійская дыпламатыя дзейнічала ў духу дактрыны «ліберальнага імперыялізму». Яна палягае ў пашырэнні эканамічнага ўплыву і яго выкарыстання для ціску ў сферы міжнароднай палітыкі. Звычайна ў якасці галоўнага аргументу выступае пагроза закруціць нафтавы ці газавы кран (што Беларусь паспытала мінулым годам) ці не менш эфектыўная блакада імпарту.

«Ліберальная імперыя» выбудоўваецца толькі звонку, бо ў самой Расіі ў «імперыі» ўжо няма ніякіх ліберальных рысаў. У першы год свайго прэзідэнцкага тэрміну Пуцін распачаў ліквідацыю апошніх асноваў расійскай дэмакратыі – летась былі адменены выбары губернатараў і ўскладнены працэс стварэння палітычных партыяў. Апазіцыя ў Думе стала не болей чым палітычнай дэкарацыяй. За гэтай «рэформай» стаяў тандэм Мядзведзеў–Суркоў. Абодва амбіцыйныя чыноўнікі рыхтуюць глебу для неабмежаванай прэзідэнцкай улады. Толькі нашто, калі па канстытуцыі Пуцін не можа быць абраны яшчэ на адзін тэрмін? У крамлёўскіх кулуарах гадаюць, хто з рэгіянальных чыноўнікаў можа быць названы пераемнікам прэзідэнта.

Пакуль каманда «чэкістаў» праводзіць «зачыстку» мясцовасці. З пачатку года для заснавання палітычнай партыі неабходна набраць 50.000 чальцоў, што на практыцы абарочваецца выключэннем з палітычнага жыцця такіх нязручных утварэнняў, як ліберальны «Яблык». Адмова ад мясцовых выбараў азначае вяртанне да кіравання генерал-губернатараў. Зноў як пры цары.

Калі прэзідэнцтва Пуціна заблукае ў тупік барацьбы прыдворных партый за міласць Крамля, то яго наступствы могуць быць падобныя на тое, што адбылося тры стагоддзі назад, калі не стала Пятра Вялікага. Пасля смерці імператара Расія пагрузілася ў хаос і барацьбу паміж пятроўскімі фаварытамі.

Крызіс улады можа пачацца і раней, калі апазіцыя, якая апынулася на абочыне, знойдзе сабе лідэра маштабу Віктара Юшчанкі і паспрабуе паўтарыць кіеўскі варыянт. Аднак людзям прэзідэнта застаецца надзея на тое, што, у адрозненне ад Леаніда Кучмы, Пуцін яшчэ можа разлічваць на маўклівую падтрымку Захаду, а кошты нафты, ад якіх залежыць эканамічная стабільнасць Расіі, не абваляцца.

У рэшце рэшт лідэры вялікіх дзяржаваў баяцца «сіндрому 2008 года», года выбараў, не меней за Пуціна. Бо калі не ён, то хто? У Расіі пакуль не бачна асобаў, здольных працягваць справу аранжавай рэвалюцыі.

**Міхал КАЦЭВІЧ,**
**Андрэй ЗАУХА**
*Newsweek Polska*
*Друкуецца ў скароце*

# Салдат як умоўны абаронца

Калі ў аўтарытарнай краіне, дзе выбары пастаянна фальсіфікуюць, а эфір навінаў – пад абцасам уладаў, пачынаюцца масавыя грамадскія палітычныя пратэсты, у фокус увагі непазбежна трапляюць сілавыя структуры. У адрозненне ад дзяржаваў уласна дэмакратычных, аўтарытарныя не могуць доўга існаваць з галоснай масавай апазіцыяй. У падобнага крызісу толькі два магчымыя вырашэнні: ці улада апазіцыю трушчыць у пыл, як, скажам, у Беларусі, ці апазіцыя не проста змяняе кіруючую партыю, а рушыць рэжым.

У Сербіі ў 2000-м, у Грузіі ў 2003-м, ва Украіне ў 2004-м, ды і ў СССР у 91-м рэжымы рухнулі, калі сілавыя структуры раскаловіся і адмовіліся дзейнічаць «супраць народа». А ў Беларусі – калі ласка, дзейнічаюць з адцягам па нырках у любы час, і рэжым стаіць, як агурок.

Ва Украіне сёння кіраўнікі спецслужбаў, не скрываючы сваіх іменаў, даюць амерыканскім журналістам шырокія інтэрв'ю пра тое, як Віктар Януковіч патрабаваў неадкладнай інаўгурацыі, увядзення надзвычайнага становішча і сілавога прарыву блакады дзяржустановаў у Кіеве, і патроны, маўляў, ужо раздалі спецназу МУС, але яны разам з ваеннымі кіраўнікамі і з Кучмам, маўляў, не далі. Зразумела, перабольшваюць, як заўжды бывае, уласныя рэвалюцыйныя заслугі. Аднак, сілавы варыянт з надзвычайным становішчам рыхтаваўся, і расійскія дзяржтэлеканалы яго ва Украіне хутка пасля выбараў 20 лістапада з упэўненасцю і ў некаторых падрабязнасцях прадказвалі, але хістанні ў сілавым блоку не далі здзейсніць такі сцэнар.

Дык чаго чакаць у Расіі – беларускага ці ўкраінскага варыянту? Здавалася б, па словах Аляксея Кудрына, усяго 1 працэнт пенсіянераў актыўна пратэстуе, і тых, як дзяцей, вядуць яшчэ меншыя па колькасці групоўкі дысідэнтаў-агітатараў з КПРФ, з «Яблыка», ды лімонаўцы, ну яшчэ крымінальнікі і замежныя агенты – калі даць веры тлумачэнням крамлёўскіх таварышаў. І ўсё ж каменная на выгляд пуцінская вертыкаль уся раптам затрашчала.

Вельмі паходзіць на тое, што гэтак званыя сілавікі-чэкісты маюць намер скарыстаць фіяска з адменай ільготаў, каб зняць ці сур'ёзна паскубаць гэтак званых лібералаў – эканамістаў-рынчнікаў Кудрына. Грэфа ды іншых. Крамлёўскія інтрыгі, зразумела, адгукаюцца далей уніз па вертыкалі няўпэўненасцю і хістаннямі. Абяцанкі нешта даплаціць, прыбавіць і палепшыць абваліліся ў апошнія дні на насельніцтва, якое цяпер пачынае разумець, што дэманстрацыі палітычнай актыўнасці не драбяза, а дзейсны сродак чаго-небудзь дамагчыся.

Абяцалі з федэральнага цэнтра 105 мільярдаў рублёў на дадатковыя выплаты і пенсіі. Грэф абяцаў, што гэтыя выдаткі не выклічуць усплеску інфляцыі, але дадаў, што, маўляў, «яшчэ 100 мільярдаў» выдаткаваць абсалютна недапушчальна. Гэта вельмі важная заява: значыць, шэраговым сілавікам не варта асабліва разлічваць на прыбаўку.

Пуцін прыйшоў да ўлады пад другую чачэнскую вайну, пад абаронна-патрыятычныя лозунгі аб адраджэнні велічы краіны, яе ўзброеных сілаў, міжнароднага прэстыжу. Абяцанняў было дадзена шмат, выдаткі на сілавы блок узраслі ў тры разы з 2000-га года, а большая частка афіцэраў і ніжэйшых чыноў атрымоўвае жабрацкія зарплаты. Пэўныя прыбаўкі за гэты час былі, але яны болей чым з'едзены інфляцыяй і пасля́доўнай адменай ільготаў. Зараз тыя, хто павінен будзе біць па галовах дубінкай дэманстрантаў, самі пакрыўджаны ўладай, якую павінны абараняць.

У прынцыпе настрой у шэрагах ёсць, як засведчыў нядаўні міліцэйскі пагром у горадзе Благавешчанске ў Башкірыі. Зразумела, да паўмільёна з 94-га прайшлі Чачню, і шмат хто не аднойчы; біць, катаваць, забіваць сваіх грамадзянаў звыкліся. Але, з іншага боку, у іх жа льготы аднялі, як і ў пенсіянераў. А ўласныя генералы невядома куды расцягваюць сотні мільярдаў рублёў, і таму ж начальству ў цэнтральным апараце летась сапраўды сур'ёзна прыбавілі грошай, а іншым – дулю.

Па разумным разліку начальнікам ужо цяпер трэба тэрмінова і ў разы прыбаўляць усім сілавікам, пакуль да «бархатнай рэвалюцыі» не дайшло. Але тут – сур'ёзная праблема. Нафтадаляраў у краіне відавочна лішак, а істотная прыбаўка сілавікам, нават нармальная кампенсацыя за льготы – практычна немагчымыя. Праўду кажа Грэф – раскруціцца такая інфляцыя, што да канца года ўсе прыбаўкі і кампенсацыі будуць з'едзеныя. У снежні 2003-га Пуцін публічна прызнаў, што «вайскоўцаў і прыраўненых да іх па статусу – 4 мільёны чалавек». Калі дакладна, то ў сілавых ведамствах у спісах на зарплату – 4,5 мільёны. З іх у Міністэрстве абароны – болей за 2 мільёны. Адных палкоўнікаў на сапраўднай службе па сілавым блоку болей за 100 тысяч.

Упарта адмаўляючыся праводзіць ваенную рэформу, Пуцін з прыбліжанымі самі сябе загналі ў кут. У гады стабільнасці не скарысталіся шанцам радыкальна скараціць сілавыя структуры адпаведна рэальным магчымасцям краіны. Ці пабаяліся, ці не захацелі, а цяпер позна скарачаць, і плаціць нармальную зарплату таксама не выпадае, не кажучы ўжо аб масавых закупках сучаснай тэхнікі для пераўзбраення.

Атрымалася займальная вертыкаль з вельмі багатымі людзьмі наверсе, якія, падобна на тое, наогул не разумеюць, наколькі здзекліва гучаць іх абяцанні шчодра прыбавіць не 100 рублёў, а цэлыя 200 ці 240 да пенсіі як індэксацыю за 2005 год. Цікава, калі гэтыя таварышы апошнім разам трымалі ў руках 100 рублёў і расплачваліся самі гэтакай паперкай за якую-небудзь пакупку. У прынцыпе, напэўна, разумеюць, што гэта не 100 еўра, але прыкінуць канкрэтную розніцу з нязвычкі не атрымоўваецца. І вось гэтых нахабнікаў на ніве вертыкалі абараняюць масы напаўнішчых, азлобленых і ў той жа час дужа вараватых сілавікоў. Вельмі цікава, колькі ж гэтая канструкцыя здолее яшчэ праставаць.

**Павел ФЕЛЬГЕНГАЎЭР,**
**«Новая газета»**


Аспазія


Гіпатыя

# Ababраныя жанчыны

**Умберта Эко**

У старажытнасці казалі, што мужчына можа думаць аб бясконцасці, а жанчына надаваць ёй сэнс. Падобная сентэнцыя мае самы розны сэнс: напрыклад, мужчыне немагчыма нараджаць дзяцей, але ён можа суцешыцца парадоксамі Зенона. На падставе падобнага с цверджання атрымала распаўсюджанне ідэя, што на працягу ўсёй Гісторыі (па меншай меры, да XX стагоддзя) на Зямлі з'яўляліся вялікія паэтэсы і выдатныя пісьменніцы, нараджаліся выбітныя жанчыны-вучоныя, але не было ні жанчын-філосафаў, ні, зразумела, таксама жанчын-матэматыкаў.

Гэтакае скажонае стаўленне да жанчын прывяло да таго, што на працягу немалога часу лічылася, быццам яны няздольныя да заняткаў жывапісам, а Расальду Кар'ера і Артэмізію Джэнцілескі лічылі выключэннем. Зразумела, што пакуль жывапіс разумеўся як выкананне фрэсак у царквах, для жанчын лічылася непрыстойным лезці ў спадніцах на рыштаванні, роўна як і кіраваць майстэрняй з трыццаццю падмайстрамі. Але як толькі пачаў развівацца мальбертны жывапіс, з'явіліся і жанчыны-мастачкі.

Тое ж казалі і пра габрэяў, якія дасягнулі поспеху ва ўсіх галінах мастацтва, але толькі не ў жывапісу; да той пары, пакуль не з'явіўся Шагал. Габрэйскае мастацтва сапраўды было знакамітае, найперш сваімі музычнымі, а не візуальнымі творамі, бо да божага не было прынята звяртацца пасярэдніцтвам выяваў. Пры гэтым, безумоўна, выдатнымі творамі візуальнага мастацтва юдзеяў можна лічыць шматлікія старажытныя манускрыпты. Праблема палягала ў тым, што ў тыя часы, калі вобразнае мастацтва знаходзілася ў руках царквы, габрэі наўрад ці маглі імкнуцца да пісання выяваў Маці Божай і распяццяў. Здзіўляцца на гэта тое самае, што здзіўляцца на той факт, што ніводзін габрэй не стаў папам рымскім.

У хроніках універсітэта Балоні ўзгадваюцца такія жанчыны-выкладчыкі, як Бетысія Газадзіні і Навела Д'Андрэа, прыгожая ў такой ступені, што лекцыі ёй даводзілася чытаць у вуалі, каб не хваляваць студэнтаў. Але ні тая, ні другая не выкладалі філасофію. У падручніках па гісторыі філасофіі мы таксама не сустрэнем ніводнай узгадкі пра жанчын, якія выкладалі дыялектыку і тэалогію. Бліскучай і нешчаслівай Элаізе – вучаніцы Абеляра – давялося задаволіцца лёсам настаяцельніцы манастыра.

Да праблемы абатыс, аб якой ужо ў нашы час шмат напісала жанчына-філосаф Марыя Тэрэза Фумагалі, таксама не варта ставіцца з лёгкасцю. У сярэднявечным грамадстве абатысы былі не толькі духоўнымі настаўніцамі для сваіх манахіняў, таленавітымі арганізаторкамі і палітыкамі, якія клапаціліся аб сваім манастыры, але прыкметнымі прадстаўніцамі інтэлектуальнай супольнасці свайго часу. У любым добрым падручніку філасофіі павінны называцца імёны такіх вялікіх жанчын-містыкаў, як Кацярына Сіенская, не кажучы ўжо аб Хільдэнгард фон Бінген, якая нават сёння ўражвае нас сваімі метафізічнымі ўяўленнямі і бачаннем бясконцасці.

Сцверджанне, што містыка не з'яўляецца філасофіяй, нельга лічыць правамерным, паколькі ў гісторыі філасофіі значная ўвага аддаецца такім містыкам, як Сузо, Таўлер, Мейстэр Экхарт. А сцвярджаць, што жаночая містыка надавала большую ўвагу цялеснаму, чым абстрактным ідэям, раўназначна сцверджанню, што з падручнікаў філасофіі павінны знікнуць узгадкі аб філасофе Мерло-Понці, напрыклад.

Фемістыкі ўжо даўно паставілі на п'едэстал сваю гераіню Гіпатыю Александрыйскую, якая у V стагоддзі выкладала платонаўскую філасофію і матэматыку. Гіпатыя стала сапраўдным сімвалам жаночай філасофіі, хоць ад яе твораў засталіся толькі ўспаміны. Усе яны былі знішчаны, як і сама Гіпатыя, якая загінула ад рук раз'юшаных хрысціянаў, натхнёных, па словах гісторыкаў, тым самым Кірылам Алесандрыйскім, які пазней быў названы святым, хоць і не за гэты ўчынак, зразумела. Але ці была Гіпатыя адзіная?

Нядаўна ў Францыі выйшла ў свет невялікая кніга «Гісторыя жанчын-філосафаў». Аўтар гэтай кнігі – Жыль Менаж, які жыў у XVII стагоддзі і быў папярэднікам маркізы дэ Севінье і мадам дэ Лафайет. Упершыню ягоная кніга была выдадзена ў 1690 годзе. Так што Гіпатыя была не адзіная, і хоць у кнізе Менажа найбольшая увага аддаецца класічнай эпосе, з яе мы даведваемся аб такіх жанчынах-філосафах, як Дзіятыма з платонаўскага «Піру», Арэта Керынейская, Нікарэта з мегарскай школы, філосаф-кінік Гіпаркія, паслядоўніца арыстотэлевай філасофіі Феадора, паслядоўніца эпікурэйцаў Леонціён і піфагарэйцаў – Фемістоклея. Праглядаючы старажытныя рукапісы і працы айцоў царквы, Менаж знайшоў узгадкі 65 імёнаў жанчын-філосафаў, хоць і варта прызнаць, што яго разуменне філасофіі было дастаткова шырокім.

Калі ўлічваць, што ў грэчаскім грамадстве жанчынам адводзілася месца толькі за закрытымі дзвярыма дома, філосафы аддавалі перавагу не столькі прыгожым дзяўчынам, колькі прыгожым юнакам, а каб мець пэўны ўплыў у грамадстве, жанчына павінна была быць куртызанкай, становіцца зразумела, якія намаганні прыкладалі мысліцельніцы таго часу, каб быць пачутымі. З іншага боку, Аспазію ўсе памятаюць менавіта як гетэру, забываючы пра тое, што яна была бліскучым рытарам і філосафам, якую – пра гэта пісаў Плутарх – любіў паслухаць сам Сакрат.

Я перагартаў тры філасофскія энцыклапедыі і не сустрэў там узгадкі ні пра адну жанчыну-філосафа, за выключэннем Гіпатыі. І справа не толькі ў тым, што за ўсю нашу гісторыю не было жанчын, якія разважалі аб быцці і светабудове. Проста мужчыны-філосафы вырашылі за лепшае іх забыць, папярэдне, магчыма, прыпісаўшы сабе ўсе іх філасофскія здабыткі.

*El Mundo*

# Перспектыўныя прафесіі

***Якіх спецыялістаў не хапае на сусветным рынку працы***



Вялікабрытанія, Канада, Германія, Францыя, Ірландыя – у гэтыя краіны нашыя студэнты часцей за ўсё імкнуцца патрапіць, каб працягнуць адукацыю. Сярод спецыяльнасцяў, якія па прагнозах будуць па-ранейшаму карыстацца попытам у бліжэйшай перспектыве, можна выдзеліць абслугоўванне бізнесу, куды ўваходзяць кіраванне, бухгалтарскі ўлік і фінансы, аўдыт, кансалтынг і сацыяльнае абслугоўванне насельніцтва, інфармацыйныя тэхналогіі і гатэльная гаспадарка.

### Абслугоўванне бізнесу

Нягледзячы на тое, што мастацтву кіравання ў заходніх краінах навучаюць ужо добрыя сто гадоў, попыт на кіраўнікоў па-ранейшаму высокі. Гэтак, у Англіі, на думку спецыялістаў з Навукова-даследчага інстытута па працаўладкаванні пры універсітэце Ворвіка, у бізнесе, злучаным з банкаўскай і страхавой справай, кіраваннем кампаніямі, аўдытам і кансалтынгам, пастаянна існуе болей за мільён адкрытых вакансіяў. У Новай Зеландыі ў сферы бізнесу занятыя ўсяго 80% вакансіяў. Ірландскія аналітыкі адзначаюць, што ў краіне назіраецца востры недахоп кадраў кіраўнікоў, таму выпускнікоў факультэтаў кіравання і бізнесу працадаўцы расхопліваюць.

Парадаксальная сітуацыя з кваліфікаванымі менеджарамі склалася ў Германіі. Хоць за апошнія 15 гадоў германскія вузы павялічылі выпуск будучых кіраўнікоў болей чым у два разы, краіна адчувае патрэбу ў менеджарах высокай кваліфікацыі. Па прагнозах Нюрнбергскага інстытута рынку працы і прафесійнай кваліфікацыі, да 2010 года на кожную 1.000 рабочых месцаў у кіраванні дадаткова з'явяцца 420 месцаў, а ў кансалтынгу гэтая лічба амаль падвоіцца.

Французскае нацыянальнае агенцтва па працаўладкаванні адзначае самы высокі індэкс набору маладых спецыялістаў для аўдытарскіх кампаній – ён складае 97%.

### Дзяржаўная служба

З пераліку прафесій, падрыхтаванага канадскімі аналітыкамі, да перспектыўных, апроч сектара абслугоўвання бізнесу і медыцыны, можна аднесці сацыяльную працу і выкладчыцкую дзейнасць. Прафесіі, звязаныя з выкладаннем у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, маюць у Канадзе ўзровень беспрацоўя (гэта значыць адсотак спецыялістаў, якія не знаходзяць працу па спецыяльнасці) усяго ад 0,5 да 2,3%, а з сацыяльнай працай – 1,9%.

Самы вялікі рост павелічэння рабочых месцаў дзяржслужба прадэманстравала ў Аўстраліі – тут колькасць створаных за апошнія 5 гадоў новых вакансіяў складае 32%.

У галіне медыцыны вялікія перспектывы найперш для медсёстраў. Старэнне насельніцтва патрабуе ўсё большай колькасці людзей, здольных за імі даглядаць. На Захадзе гэтая прафесія лічыцца вельмі шаноўнай. Наяўнасць у медсястры адукацыі на ўзроўні універсітэцкай магістратуры там нікога не здзівіш – чым вышэй ступень, тым болей зарплата.

### IT

IT-спецыялісты, згодна з прагнозамі аналітыкаў, запатрабаваныя цяпер і будуць запатрабаванымі ў бліжэйшай будучыні ўсімі сектарамі эканомікі практычна ва ўсіх развітых краінах.

Літаральна нядаўна новазеландскія вну выказалі заклапочанасць паніжэннем колькасці першакурснікаў, якія паступілі на факультэты і кафедры інфармацыйных тэхналогіяў. Страта прэстыжнасці спецыяльнасці ідзе насуперак планам новазеландскага ўрада па развіцці інфармацыйных тэхналогіяў і ўзрастанню колькасці вакансій нацыянальных і міжнародных кампаній.

Вялікі попыт на айцішнікаў існуе ў Ірландыі. Зараз прыкладна 40% ад аб'ёмаў камп'ютэрных праграмаў і дадаткаў распрацоўваюцца супрацоўнікамі транснацыянальных карпарацый, якія размешчаны ў гэтай краіне.

### Турызм

Па даных Сусветнай турыстычнай арганізацыі, індустрыя турызму прыносіць 4% ад сусветнага ВУП і ствараe 3% рабочых месцаў. Прамая занятасць ва ўсім свеце ў галіне гасцінічнага бізнесу і турызму складае каля 80 мільёнаў рабочых месцаў, а разам з далучнымі сектарамі (такімі, як арэнда машын, фітнес, салоны прыгажосці, страхаванне) гэтая лічба ўзрастае да 200 мільёнаў месцаў. Інакш кажучы, кожная 13-я пазіцыя на сусветным рынку працы проста ці ўскосна звязана з гасцінічнай гаспадаркай і турыстычнымі паслугамі. У некаторых краінах – прыкладам, у Іспаніі – індустрыя абслугоўвання гасцей з'яўляецца трэцяй па значнасці пасля сельскай гаспадаркі і дзяржслужбы.

Адначасова неабходна адзначыць, што большая частка работнікаў турыстычнай сферы не мае вышэйшай адукацыі. Па данных Сусветнай канфедэрацыі працы, болей за 60% персаналу, які працуе ў гасцінічнай гаспадарцы і турызме Германіі, не праходзілі нават фармальнага навучання.

*5 ballov. ru*



**Новы Час**
Галоўны рэдактар
**Алена АНІСІМ**

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
e-mail: nchas@tbm.org.by
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія № 02330/0056677 ад 29.03.2004 г.
220108, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 86
Падпісана да друку 31.01.2005 (12:00).
Наклад 1500 асобнікаў. Кошт свабодны.